


# Рэгіянальная газета. Rh.by




Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

6 лютага 2015 года №6 **(1032)**



**Дзяржава дала дом, дзе нараджаецца сям'я**

Як прайшоў першы тыдзень у новым доме, распавядае мама Вольга Шчурская.

старонка 2



**Гісторыя поспеху пачынаецца ад вашай усмешкі**

Як захаваць зубы здаровымі, колькі абыдзецца лячэнне, а таксама спіс стаматалагічных кабінетаў.

старонкі 20-21

**Як эканоміць ваду і святло** с. 3

**Злавілі шчупакоў вагой больш за 13 кілаграмаў** с. 5

**Выдалі першы фаліянт пра Язэпа Драздовіча** с. 6

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### У аварыі ў Вілейцы загінуў малады супрацоўнік міліцыі

**ВІЛЕЙКА.** 3 лютага адбылася аварыя на скрыжаванні вуліц Піянерскай і 1 Мая ў Вілейцы. У мікрааўтобус "Газель", што рухаўся па галоўнай дарозе, урэзаўся аўтамабіль "Кіа-Шума". Ён выехаў з другараднай і не прапусціў мікрааўтобус, паведаміў часовы выканальнік абавязкаў начальніка аддзялення ДАІ Вілейскага РАУС **Віталь Навойчык**. Ад удару "Газэль" перакулілася на бок. У выніку загінуў яе 25-гадовы кіроўца – супрацоўнік міліцыі. Кіроўца аўтамашыны "Кіа" атрымаў цялесныя пашкоджанні. Яго шпіталізавалі. Па папярэдніх дадзеных, ён знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення, дадае ўпраўленне ўнутраных спраў аблвыканкама. Следчыя вывучаюць усе акалічнасці здарэння.

### Каманда ДЮСШ-4 заявілася ў другую лігу

**МАЛАДЗЕЧНА.** Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" расказаў галоўны трэнер каманды **Аляксандр Гармаза**: "З навін каманды магу сказаць, што пачынаецца трэніровачны працэс. Я размаўляў з трыма гульцамі ФК "Маладзечна-2013". **Цімафей Ігруша, Алег Галаўнёў** і **Ілля Ануфрыеў** увойдуць у склад каманды. Пакуль яны трэніруюцца ў Мінску, але асноўная мая ўмова – адпавядаць узроўню гульцоў ДЮСШ-4. Мне нецікава браць людзей на лаўку запасных". Што датычыцца фінансавання, то ў гэтым пытанні ў ДЮСШ нашмат больш пераваг у параўнанні з "Маладзечна-2013". Уступны ўнёсак будзе прафінансаваны з бюджэтных сродкаў.

### У Ашмянах адкрыўся новы цэх па вытворчасці сыру

**АШМЯНЫ.** Новы цэх па вытворчасці сыру тыпу "Альтэрмані" адкрыўся ў Ашмянах. Аналагаў такога прадукту ў Беларусі пакуль не выпускаюць. Новы прадукт будзе выпускацца ў форме цыліндраў па 350 грамаў. Кошт абсталявання – амаль 5 мільёнаў еўра. Агульны кошт праекта – амаль 70 мільярдаў рублёў інвестыцыйных рэсурсаў. Вытворчыя магутнасці прадпрыемства павялічацца да 20 тон у суткі.

**Аддзел інфармацыі.**






Інфаграфіка Наталі ТУР.

# У Маладзечне пабудуюць 16-павярхоўкі

**МАЛАДЗЕЧНА. Пра тое, што ў Маладзечне з'явіцца шэраг 16-павярховых панэльных дамоў, "Рэгіянальнай газеце" паведаміў намеснік начальніка аддзела архітэктуры і будаўніцтва Маладзечанскага райвыканкама Кірыл Міхайленка.**

**34 892 чалавекі ў рэгіёне стаяць у чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў. Самая вялікая чарга – у Маладзечанскім раёне, 24 467 чалавек. Самая маленькая, 1415 чалавек, – у Мядзельскім.**

– Новыя вышынныя дамы размесцяцца ўздоўж вуліцы Янкі Купалы, ад каплічкі і ўверх да Парашкоў. Колькасць дамоў будзе вядомая пасля зацвярджэння праекта, але сёння можна сказаць, што гаворка ідзе пра шэраг дамоў. Будаўніцтвам будзе займацца "Барысаўжылбуд".

На сёння прынятае рашэнне Маладзечанскага райвыканкама аб пачатку праектавання інжынерных сетак да гэтых дамоў. Афармляецца акт выбару зямельнага ўчастка, на падставе якога будзе заказаны праект.

Як будуць выглядаць новыя дамы, будзе вядома не раней, чым летам.

Маладзечанскія шматпавярхоўкі будуць буйнапанэльныя.

**– А чаму не з цэглы?** –

– Таму што дамы будуе Барысаў. Яны працуюць толькі з панэлямі. У іх цяпер недагружаная лінія. Будзем дагружаць.

### У Мядзеле жыллё будуюць з блокаў

У Мядзеле і курортным пасёлку Нарач (Купа) шматпавярховыя дамы ўзводзяцца з газасілікатных блокаў вытворчасці холдынгу "Забудова".

– Дамы з іх будуюцца хутчэй, – тлумачыць галоўны інжынер прадпрыемства "УКБ Мядзельскага раёна" **Сяргей Ярчак**. – Гэта сучасны будаўнічы матэрыял. Ён мае лепшыя цеплаізаляцыйныя якасці, чым цэгла. Адпаведна, няма і прамярзання.

### Вы бачылі хоць адну крэпасць з сілікатных блокаў?

Дырэктар Радашкавіцкага керамічнага завода **Алег Мішчанка** распавёў "Рэгіянальнай газеце" пра перавагу прадукцыі яго завода.

– Канешне, я не магу сказаць, купляйце толькі радашкавіцкую цэглу і ніякую іншую. Кожны выбірае для сябе і па якасці, і па цане.

Адно, што магу сказаць, што цана нашай цэглы сёння роўная цане на газасілікатныя блокі.

Сёння Радашкавіцкі керамічны завод прадпрыемства рэнтабельнае. Сярод пакупнікоў цэглы з Радашкавічаў такія маладзечанскія прадпрыемствы, як "ЗабудоваБуд", "Барыт", ПМК- 212 і іншыя. Працуе прадпрыемства з Мінскімі арганізацыямі.

– Што датычыцца лагістыкі, – працягвае Алег Мішчанка, – то маладзечанскім прадпрыемствам выгадна купляць цэглу ў нас і таму, што адлегласць паміж заводам і горадам усяго 35 кіламетраў. Тым больш, мы маем свой аўтатранспарт, каб дастаўляць прадукцыю куды заўгодна.

**– Ці можаце назваць перавагі цэглы перад газасілікатнымі блокамі?**

– А вы бачылі крэпасці, якія б былі пабудаваныя з блокаў? Тое, што будуецца з цэглы. Да таго ж, кераміка – гэта другі матэрыял па экалагічнасці пасля дрэва.

Дамы з цэглы забяспечваюць камфортныя ўмовы пражывання, такія сцены прапускаюць паветра. Вільгаць унутры не збіраецца, а значыць, цвіль не з'явіцца.

– Хаця ў нас дастаткова сёння заказаў, – падсумаваў Алег Мішчанка, – але лепш дэфіцыт прадукцыі, чым яе залежы на складзе. Таму мы адкрытыя да супрацоўніцтва.

**Наталля ТУР, Алесь ВЫСОЦКІ, Галіна СІНІЦА.**




На фоне свайго новага дома ў Насілаве сям'я Шчурскіх: мама Вольга і тата Сяргей, дзеткі Павел, Улад, Вадзім, Ілья і Віка.

СЯМ'Я

# Дзяржава дала дом, дзе нараджаецца сям'я

**МАЛАДЗЕЧНА. Урачыстае адкрыццё дома сямейнага тыпу ў Насілаве адбылося ў пятніцу, 30 студзеня.**

Новы дом адразу вылучаецца яркім сонечным колерам. Ён двухпавярховы, з некалькімі балконамі. У ім чатыры дзіцячыя пакоі, спальня, хол, пральня, гардэробная, некалькі санвузлоў. Сям'я засялілася ў цалкам уладкаваны дом з мэбляй, бытавой тэхнікай, а каля канапы дзетак чакала горка падарункаў.

У дом запрасілі **Вольгу** і **Сяргея Шчурскіх**. Вольга мае вышэйшую эканамічную адукацыю. Сяргей – індывідуальны прадпрымальнік. Яны пражылі разам 15 год перш чым рашыліся стаць прыёмнымі бацькамі. З сацыяльна-педагагічнага цэнтра прынялі на выхаванне **Паўла**, **Улада**, **Вадзіма**, **Ілью** і **Віку**. Усе дзеткі аднаго ўзросту.

На ўрачыстым адкрыцці прывіталі гаспадароў старшыня райвыканкама **Аляксандр Яхнавец**, начальнік упраўлення адукацыі Міноблвыканкама **Галіна Казак**, якія пажадалі сям'і жыць утульна і дружна.

Як паведаміла галоўны спецыяліст сектара па выхаванні і сацыяльнай рабоце **Ірына Шыцік**, на дом выдаткавана тры з паловай мільярды рублёў. З іх паўтара мільярда – з рэспубліканскага бюджэту, два – з мясцовага. Будаўніцтва пачалі ад жніўня 2014 года.

Грошы на мэблю і тэхніку пайшлі з мясцовага бюджэту. Дапамагла і акцыя "Нашы дзеці" сярод работнікаў аддзела адукацыі.

Гэта другі дзіцячы дом сямейнага тыпу ў раёне пасля чысцінскага.

### "Мы яшчэ нібы ў зале чакання"

Напярэдадні выхаду газеты ў друк мы распыталі ў мамы Вольгі Русланаўны, як прайшоў першы тыдзень у новым доме:

– Мы не расчараваліся. Усяму вучымся разам, быць мамай не так і цяжка. Цяпер усталёўваем правілы паводзін: есці толькі на кухні, не хадзіць з ежай па ўсім доме, чысціць зубы, днём – ціхая гадзіна. Вечары праходзяць так, што траесца лесвіца і ўвесь дом гудзіць. Адносіны паміж дзецьмі – як у звычайнай сям'і: гуляюць, сябруюць, спрачаюцца. Калі адзін "накасячыць", ніхто не прызнаецца, і адзін аднаго не здаюць. Адсюль яшчэ адно правіла: "накасячыў" адзін – выпраўляюць усе разам. У адным пакоі пасяліліся Віка з братам, астатнія трое хлопчыкаў – у іншым. У дзячычым пакоі стаіць этажэрка. Звычайная карціна падчас ціхай гадзіны знайсці хлопчыкаў, якія спяць проста на ёй (*смяецца*). Пакуль пра сны, якія сняцца на новым месцы, дзеці не гавораць. Яшчэ баяцца адкрывацца. Першы тыдзень прыглядаемся адзін да аднаго. Нібы ў зале чакання: чагосьці чакаюць яны, чагосьці – мы.

### Што трэба ведаць кандыдатам у бацькі-выхавальнікі

Дзіцячы дом сямейнага тыпу – гэта сям'я, якая прыняла на выхаванне ад пяці да дзесяці дзяцей-сірот ці дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў. Муж і жонка выконваюць абавязкі выхавальнікаў паводле дагавора. Час працы ў якасці бацькоў-выхавальнікаў залічваецца ў агульны працоўны стаж. Бацькі становяцца педагагічнымі работнікамі аддзела адукацыі, спорту і турызму, маюць права на адпачынак, прэміі. За прыёмнымі дзецьмі захоўваюцца ўсе льготы і сацыяльныя гарантыі.

**Зоя ХРУЦКАЯ, Наталля ТУР.**

КУЛЬТУРА

# Ствараюць музей памяці ксяндза Уладзіслава Чарняўскага

**ВАЛОЖЫН. Гэтак у Вішневе ўшаноўваюць памяць святара, які амаль 50 год быў пробашчам мясцовай парафіі.**

**Уладзіслаў Чарняўскі** вядомы як перакладчык Біблії і катэхізіса на беларускую мову. Быў прыхільнікам увядзення беларускай мовы ў касцёле. "Я адразу стаў гаварыць па-беларуску. Мяне калі запрашалі, я казаў: калі хочаце ксяндза – буду гаварыць па-беларуску… Некаторыя крывіліся спачатку, казалі, што камуніст, уся-кая была гаворка. А час прайшоў – і ўсе прывыклі", – прыгадваў ён у адным інтэрв'ю.

### Матэрыял дапамагаюць збіраць вяскоўцы

– Мы вырашылі больш падрабязна расказаць пра нашых знакамітасцяў, – распавядае бібліятэкар Вішнеўскай сельскай бібліятэкі **Алена Жвірко**.

– У нас ёсць фотавыстава, прысвечаная 90-годдзю **Шымона Перэса**. Але найбольш матэрыялу сабрана пра Уладзіслава Чарняўскага. Тым больш, у пачатку 2016 года будзе сотая гадавіна ад яго нараджэння.

У бібліятэцы прапанавалі людзям, якія былі знаёмы са святаром, дапамагчы у зборы матэрыялу. Пагадзіліся.

Так з'явіліся альбомы фотаздымкаў, рэлігійныя кнігі, якімі карыстаўся айцец Уладзіслаў, і яго пераклады. Ёсць сшыткі, у якіх рабіў запісы, віншавальныя паштоўкі.

– Для нас цікава літаральна ўсе, – дадае бібліятэкар. – Такіх кніг у нашай мясцовасці і не знойдзеш. Людзям цікавыя і фатаграфіі 50-х, 60-х гадоў мінулага стагоддзя. Пазнаюць на іх сябе ці сваіх сваякоў.

**– А вы ці ведалі Уладзіслава Чарняўскага?**

– Так. Добрым чалавекам быў. Усім дапамагаў, ішоў на саступкі, уваходзіў у палажэнне кожнага.

### "Столькі людзей ніколі не было"

Частку экспазіцыі дэманстравалі ў Доме культуры 24 студзеня, калі ў Вішневе адбыўся Дзень памяці ксяндза **Уладзіслава Чарняўскага**. Тут прайшла ўрачыстая імпрэза. Падрыхтавалі яе мясцовыя культработнікі, настаўнікі і жыхары.

– Чалавек 350 прыйшло. Шмат святаў, канцэртаў праходзіць – столькі людзей ніколі не было, – уражана распавядае **Алена Жвірко** – Перад гэтым у касцёле адбылася святая імша. Прыехаў Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп **Тадэвуш Кандрусевіч**. Людзі казалі, што ў храме людзей было болей, чым на Каляды. Апроч мясцовых, былі са Смаргоні, Маладзечна ды іншых гарадоў.

У далейшым будуць папаўняць экспазіцыю, прысвечаную святару. І сёлета плануюць стварыць музей у будынку Дома культуры.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

КУЛЬТУРА

# Прадаў некалькі гітарных кампазіцый – купіў машыну

**МАЛАДЗЕЧНА. Год таму беларускі гурт "Дразды" і Віталь Качаткоў вырашылі прысвяціць песні мясцовым брэндам і такім чынам дапамагчы ім.**

Але некалькі кампазіцый купілі японцы. Грошай хапіла на машыну.

– Мы хацелі напісаць песні пра трактары, беларускую соль, лепшыя ў свеце тэлевізары, халадзільнікі, – расказвае Віталь. – Такая задума з'явілася пасля песні "Таму што мы ў кедах" гурта "Дразды". Пасля яе як быццам павялічыўся продаж прадукцыі адной з беларускіх фабрык абутку.

### Грошы невялікія – на японскую машыну не хапіла

У спевака Віталя Качаткова ёсць песня, прысвечаная самалёту і банкаўскім паслугам.

– Песню пра банкаўскія паслугі хацеў танна купіць японскі банк, – узгадвае спявак. – І я, як сапраўдны патрыёт, выставіў добрую суму грошай, аднак японцы не пагадзіліся заплаціць.

Праз некаторы час японскі банк купіў некалькі кампазіцый Віталя Качаткова з гітарнага альбома "Гітарныя сезоны".

– Грошы невялікія, – дзеліцца спявак. – Ледзьве хапіла на французскую машыну "Рэно-Флюенс" расійскай вытворчасці.

А вось на японскую машыну не хапіла.

**Аддзел інфармацыі.**

МОЛАДЗЬ

## Навучэнцаў каледжа ўзнагародзілі за праграмы ды гульні

**ВІЛЕЙКА.** Навучэнцы дзяржаўнага каледжа прымалі ўзнагароды за свае распрацоўкі. **Дзмітры Станкевіч** заняў першае месца на абласным конкурсе медыятворчасці і праграмавання "Натхненне" ў намінацыі "Прыкладная праграма".

Антон Троцкі заняў другое месца на абласным этапе рэспубліканскага конкурсу па распрацоўцы камп'ютарных гульняў патрыятычнай скіраванасці "Патрыёт.by". Вызначыўся ён у намінацыі "Дзякуй салдатам Перамогі за тое, што не ведаем вайны ...", расказала педагог-арганізатар каледжа **Святлана Мацукевіч.**

**Аддзел інфармацыі.**

## Кацярына Ардынец трапіла ў дзясятку найлепшых "Звонкай раніцы-5"

**МЯДЗЕЛ.** На гала-канцэрце 28 студзеня назвалі дзесяць найлепшых удзельнікаў фіналу конкурсу юных вакалістаў "Звонкая раніца-5".

Трапіла ў дзясятку адна з трох мядзельцаў-фіналістаў – **Кацярына Ардынец.**

Фінал конкурсу амаль 20 дзён доўжыўся ў Нацыянальным дзіцячым адукацыйна-аздараўленчым цэнтры "Зубраня". Удзельнічалі ў ім 39 юных вакалістаў з розных куткоў краіны.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● НАШЫ ГРОШЫ

# Як эканоміць ваду і святло

**МАЛАДЗЕЧНА. Спосабамі эканоміі падзялілася чытачка “Рэгіянальнай газеты” Марыя Нелюб. Жанчына эканоміць электраэнергію на светадыёдных лямпачках.**

А своечасовы рамонт ці замена кранаў дапамагае зберагчы ваду. Такім чынам Марыя думае не толькі пра свой кашалёк, але і пра навакольнае асяроддзе.

– Не магу сказаць, што я эканомная, – так пачала ліст жанчына. – Ды і што гэта за жыццё, калі ты ўва многім сабе адмаўляеш. Але ёсць тое, на што я звяртаю асаблівую ўвагу.

### З кранаў не ліецца вада без патрэбы

Чытачка заўважае, колькі затрачваецца, каб ачысціць і падаць ваду ў кватэру. А на падагрэў яе колькі дадаткова расходуецца энергіі. Калі падумаць пра сусветны маштаб, то ці не ад гэтага і глабальнае пацяпленне. Таму жанчына своечасова рамантуе ці замяняе краны і эканомна расходуе ваду.

Марыя расказвае, што ў вядомай амерыканскай газеце амаль у кожным нумары ёсць артыкулы, якія расказваюць пра беражлівасць. Гэта дае свае вынікі. Яна гаворыць, што было б добра, каб і ў мясцовых газетах былі такія парады.



Фота lovekids.by

**Добра паплёскацца ў цёплай ванне. Аднак тыя, хто карыстаецца душам, у пяць, а то і ў сем разоў менш выкарыстоўваюць вады.**

### Камбінуем святло – эканомім электраэнергію

– Істотна эканоміяць электраэнергію святлодыёдныя лямпачкі, якія спажываюць 7 ці 12 ват, – адзначае Марыя Нелюб. – У трохражковую люстру на кухні я ўкруціла дзве энергазберагальныя лямпачкі па сем ват і адну на 60 ват – хапае святла. У зале ў пяціражковую люстру ўкручаныя тры энергазберагальныя і дзве на 60 ват. Можна ўключаць усе ражкі, а можна тры – і святла дастаткова, і эканомія істотная.

Таксама чытачка расказвае, калі ў кватэры ёсць і бра, і таршэр, і настольныя лямпы, то святло можна камбінаваць. Тады эканомія большая.

### Заказвае лямпачкі з Кітая

Таксама жанчына эканоміць на лямпачках. У магазінах яны вельмі дарагія, таму яна заказала іх праз інтэрнэт з Кітая. Дастаўка адтуль бясплатная, таму адна лямпачка абышлася ў 20 тысяч рублёў.

Сваімі спосабамі эканоміі грошай вы можаце падзяліцца праз электронную пошту region-news@rh.by альбо даслаць ліст у рэдакцыю.

**Галіна СІНІЦА.**

ЛІЧБА НУМАРА

**5,5** стаматолага прыходзіцца на 10 тысяч беларусаў

У Беларусі на 2013 год 5196 дактароў стаматалагічнага профілю

Паводле Міністэрства аховы здароўя

Інфаграфіка Зоі ХРУЦКАЙ.

| Курсы валют НБ РБ | 29.01 | 5.02 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 15 210,00 | **15 420,00** |
| Еўра | 17 290,00 | **17 480,00** |
| Злоты | 4 080,48 | **4 181,58** |
| Расійскі рубель | 227,00 | **228,00** |
| Грыўня | 959,02 | **952,04** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне 4.02** | | |
| Еўра | 17450/17635 | **17300/17680** |
| Долар ЗША | 15350/15500 | **15150/15550** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 28.01 | 4.02 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 138900 | **138900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53750 | **53750** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 26500 | **25800** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 39800 | **39800** |
| Селядзец, 1 кг | 32500 | **45800** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 115000 | **115000** |
| Рыс, 0,9 кг | 13900 | **13900** |
| Грэчка, 0,8 кг | 13200 | **13700** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14000 | **14000** |
| Алей “Масловія” | 18000 | **18000** |
| Маянэз, 200 г | 3900 | **3900** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 10500 | **14200** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 35000 | **35000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12500 | **12500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 6500 | **5900** |
| Капуста, 1 кг | 5000 | **5000** |
| Морква, 1 кг | 5800 | **5800** |
| Буракі, 1 кг | 5800 | **5800** |
| Лімоны, 1 кг | 24900 | **24900** |
| Апельсіны, 1 кг | 19000 | **19500** |
| Мандарыны, 1 кг | 22000 | **22900** |
| Памідоры, 1 кг | 33900 | **33900** |
| Агуркі, 1 кг | 32000 | **29900** |
| Перац, 1 кг | 39000 | **42900** |
| Вінаград, 1 кг | 32000 | **29900** |
| Бананы, 1 кг | 18000 | **23800** |
| Хурма, 1 кг | 20000 | **23500** |
| Яблыкі, 1 кг | 10000 | **9900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 26000 | **24900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18000 | **18000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **55000** |
| Бульба, 1 кг | 5500 | **5500** |
| Сала, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25000 | **25000** |
| Мёд, 0,5 л | 55000 | **55000** |

● ГРАМАДСТВА

## У Маладзечне забаранілі прадаваць прадукцыю на 546 мільёнаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Летась інспектары дзяржнагляду Маладзечна склалі 162 пратаколы аб адміністрацыйных правапарушэннях. Юрыдычныя асобы і індывідуальныя прадпрымальнікі не выконвалі тэхнічныя рэгламенты.**

Па выніках праверак забаранілі рэалізоўваць прадукцыю на суму 546 мільёнаў 946 тысяч рублёў. Таксама выдадзеныя прадпісанні і рэкамендацыі аб выпраўленні парушэнняў.

### Няправільна захоўвалі прадукцыю

Інспекцыя дзяржстандарту па Мінскай вобласці і Мінску правяла 116 праверак і 177 маніторынгаў.

Прадпрымальнікі часцей за ўсё парушалі правілы якасці тавараў, маркіроўкі, упакоўкі прадукцыі. А таксама гандлявалі прадукцыяй са скончаным тэрмінам прыдатнасці, няправільна яе захоўвалі.

### Няправільна маркіравалі прадукты

Напрыклад, на адным і тым жа прадукце былі ўказаныя два складнікі. Часта адсутнічала інфармацыя пра тэрмін прыдатнасці.

На некаторых прадпрыемствах і аб’ектах гандлю выкарыстоўвалі вымяральныя сродкі без паверкі.

**Паводле інфармацыі Таісы ПЯТРОВАЙ, намесніка начальніка інспекцыі дзяржнагляду па вобласці, начальніка аддзела дзяржнагляду.**

● ГРАМАДСТВА

## На службовыя машыны ў Маладзечне плануюць паставіць GPS

**МАЛАДЗЕЧНА.** Сёлета на працягу першага паўгоддзя на службовыя машыны дырэктараў камунальных прадпрыемстваў, кіраўнікоў прадпрыемстваў, структурных падраздзяленняў плануюць паставіць GPS.

– Такім чынам будзе ажыццяўляцца дадатковы кантроль за кіраўнікамі прадпрыемстваў, – адзначае кіраўнік спраў райвыканкама **Таццяна Ліхадзіеўская**. – Мяркуецца, што такім чынам скароцяцца расходы.

Пакуль праводзяць маніторынг, наколькі апраўдана ўвядзенне тага прыстасавання. Грошы на пакупку GPS пакуль не выдзеленыя з бюджэту.

**Галіна СІНІЦА.**

## Ад лютага павысілі бюджэт пражытачнага мінімуму на 2,3%

Такое рашэнне ёсць у пастанове Міністэрства працы і сацыяльнай абароны ад 21 студзеня.

Бюджэт пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва ад лютага да 30 красавіка складзе 1 мільён 428 тысяч 100 рублёў. Гэта на 2,3% вышэй нарматыву, які дзейнічаў ад 1 лістапада 2014 года да 31 студзеня 2015 года.

**Паводле БелТА.**

ЗДАРЭННІ

# Прынеслі ў краму фальшывыя грошы

**АШМЯНЫ. Сумна скончылася для 48-гадовага ашмянца спроба пабагацець. У адносінах да яго ўзбудзілі крымінальную справу па факце вырабу, захоўвання або збыту падробленых грошай ці каштоўных папер.**

Мужчына падазраецца ў тым, што папрасіў сябра вырабіць фальшывыя беларускія рублі. Потым перадаў сужытніцы і яе маці для рэалізацыі.

Апошняя змагла набыць за фальшыўку тавар, а вось сужытніцу "ўзялі на касе" ў краме. Адбылося гэта вечарам 26 студзеня ў Ашмянах.

### Раздрукавалі чатыры купюры

Як паведаміў начальнік Ашмянскага РАУС **Дзмітры Уляшка**, пры разліку ў прадаўца ўзніклі сумненні ў сапраўднасці купюр. Жанчына звярнулася да супрацоўніка службы бяспекі. Пры дапамозе адпаведнага апарата той праверыў на сапраўднасць грошы. Пераканаўся, што гэта фальшыўкі, і выклікаў міліцыю.

Па камерах відэаназірання праваахоўнікі ўстанавілі, што дама была не адна. Яе спадарожнік рэціраваўся, як толькі ў жанчыны ўзніклі праблемы на касе. Яго затрымалі па месцы жыхарства.

Крыху пазней мужчына прызнаўся, што папрасіў сябра на каляровым прынтары раздрукаваць чатыры купюры па дзвесце тысяч рублёў. Калі перадаваў грошы сужытніцы і яе маці, падазраваны прамаўчаў, што яны несапраўдныя.

У бліжэйшы час дадуць прававую ацэнку дзеянням чалавека, які вырабіў банкноты. У яго забралі сістэмны блок, прынтар і два ноўтбукі.

**Паводле УУС Гродзенскага аблвыканкама і МУС Беларусі.**




**48-гадовы мужчына папрасіў сябра на каляровым прынтары раздрукаваць чатыры купюры па 200 тысяч рублёў. Аднак у момант пабагацець не ўдалося.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Не справіўся з кіраваннем – збіў дарожны знак, дрэва і святлафор

**МАЛАДЗЕЧНА. 1 лютага, у нядзелю, а палове восьмай раніцы адбылося здарэнне. 52-гадовы кіроўца рухаўся па Касманаўтаў у накірунку Магістральнай.**

Аднак няправільна разлічыўшы хуткасць, не ўлічыў дарожныя ўмовы і на закругленні дарогі ўправа выехаў на сустрэчную. А пасля за межы дарогі.

Ён наехаў на стойку дарожнага знака, зачапіў дрэва, святлафор, які рэгулюе рух пешаходаў. Таксама зачапіў скрыню з пяском.

Кіроўца атрымаў цялесныя пашкоджанні. У бальніцы яго агледзелі, пасля чаго адпусцілі дадому.

Прызначылі судова-медыцынскую экспертызу для таго, каб высветліць цяжкасць пашкоджання. Таксама кіроўца здаў кроў, каб выявіць, ці ўжываў ён перад здарэннем алкагольныя напоі.

На машыне не быў пройдзены тэхагляд.

Пра здарэнне расказаў дзяржаўтаінспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош**.

**Галіна СІНІЦА.**

# Шукаюць скрадзеную машыну, якая стаяла па Вялікім Гасцінцы

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад 24 да 25 студзеня прыблізна ад дзесяці вечара да пяці раніцы невядомы скраў з машыны барсетку, там знайшоў ключы і скраў суседнюю машыну.**

Невядомы разбіў шкло ў задніх бакавых дзвярах на машыне "Таёта-Матрыкс". Яна знаходзілася на стаянцы, якая не ахоўвалася, побач з домам №125 па Вялікім Гасцінцы. У машыне ляжала барсетка з рэчамі, сярод якіх былі ключы ад машыны "Таёта-Карола" з рэгістрацыйным знакам 1504 КК-5.

Невядомы скраў гэту машыну.

Матэрыяльная шкода склала 105 мільёнаў 316 тысяч 400 рублёў.

Калі нехта ведае пра месцазнаходжанне ўказанай машыны, паведаміце па тэлефонах: **(8029) 5547426, (80176) 500854** альбо **102.**

**Паводле Валянціна АСІПОВІЧА, намесніка аддзела ўнутраных спраў Маладзечанскага райвыканкама.**

УВАГА! ВЫШУК

## Шукаюць мядзельца, які з'ехаў на заробкі ў Расію

**МЯДЗЕЛ.** Райаддзел Следчага камітэта Беларусі адшуквае зніклага без вестак **Івана Петрачэнку**. Яму 24 гады. Ураджэнец вёскі Восава, жыў у Мядзеле.



На пачатку кастрычніка 2014 года мядзелец паехаў на заробкі ў Расію, і цяпер яго месцазнаходжанне невядомае.

Прыкметы Івана Петрачэнкі: на выгляд 20-25 год, рост каля 170 сантыметраў, сярэдняга целаскладу, твар круглы, вочы блакітныя, вушы сярэднія авальныя, плечы апушчаныя, валасы светла-русыя, памер абутку 41-42, голас глухі, маўленне выразнае, на правай руцэ ёсць невялікая радзімая пляма, на правым перадплеччы татуіроўка ў выглядзе малюнка (абстракцыя).

Быў апрануты ў карычневую куртку, цёмна-сінія джынсы, цёмна-шэры світар, светлыя шкарпэткі, чорныя туфлі.

Грамадзян, якія маюць інфармацыю аб магчымым месцазнаходжанні Івана Петрачэнкі, просім паведаміць у раённы аддзел Следчага камітэта Беларусі па нумары **8-01797-55-8-64** або ў раённы аддзел унутраных спраў па нумарах:

**8-01797-55-4-71, 102.**

**Мядзельскі раённы аддзел Следчага камітэта Беларусі.**

## Шукаюць жанчыну з двума дзецьмі

**МАЛАДЗЕЧНА.** Аддзел унутраных спраў Маладзечанскага райвыканкама шукае **Надзею Уладзіміраўну Кушнір** 1983 года нараджэння (32 гады).



Нарадзілася ў Маладзечне. Жыла па вуліцы Касманаўтаў.

Жанчына разам з непаўналетнімі дзецьмі васьмігадовым Данілам і шасцігадовай Аляксандрай пайшла з дому 26 студзеня. Да цяперашняга часу іх месцазнаходжанне невядомае.

**Прыкметы**: на выгляд 30-35 гадоў, рост каля 175 сантыметраў, хударлявага целаскладу, плечы апушчаныя, твар авальны, вертыкальны лоб сярэдні па вышыні, бровы дугападобныя, нізкія па вышыні, цёмныя вочы, прамы гарызантальны нос, рот сярэдні таўшчыні, тонкія вусны, якія раўнамерна выступаюць, прамы падбародак, сярэднія вушы авальнай формы, прамыя валасы сярэдняй даўжыні.

**Была апранутая** ў карычневае паліто-пухавік з поясам, бэжавую вязаную шапку з чорным арнаментам.

Просім грамадзян, якія нешта ведаюць пра месцазнаходжанне Надзеі Кушнір, паведаміць па нумарах тэлефонаў: **(80176) 749683, (80176) 770312, (80176) 771656** або **102.**

## Шукаюць ураджэнку вёскі Турэц-Баяры

**МАЛАДЗЕЧНА.** Аддзел унутраных спраў Маладзечанскага райвыканкама шукае **Алену Георгіеўну Несцер** 1982 года нараджэння (33 гады).



Яна – ураджэнка вёскі Турэц-Баяры.

8 студзеня жанчына пайшла з дому. Да цяперашняга часу яе месцазнаходжанне невядомае.

**Прыкметы**: на выгляд 30-35 гадоў, рост каля 175 сантыметраў, сярэдняга целаскладу, плечы апушчаныя, твар авальны, вертыкальны лоб сярэдні па вышыні, бровы дугападобныя, сярэднія па вышыні, вочы светлыя, нос прамы гарызантальны, рот сярэдняй таўшчыні, тонкія вусны, раўнамерна выступаюць, падбародак прамы, вушы сярэднія, авальнай формы, прамыя светлыя валасы сярэдняй даўжыні.

Невядома, як была апранутая.

Просім грамадзян, якія нешта ведаюць пра месцазнаходжанне Алены Георгіеўны Несцер, паведаміць па нумарах тэлефонаў: **(80176) 749683, (80176)770312, (80176) 771656** або **102**.

## Шукаюць ураджэнца Мінска, які жыў у Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА.** Аддзел унутраных спраў Маладзечанскага райвыканкама шукае **Валерыя Уладзіміравіча Байко** 1971 года нараджэння (44 гады).



Ён – ураджэнец Мінска, жыў у Маладзечне па Вялікім Гасцінцы.

23 студзеня каля дзесяці гадзін раніцы мужчына пайшоў з дому. Да цяперашняга часу яго месцазнаходжанне невядомае.

**Прыкметы:** на выгляд 35-40 гадоў, рост каля 175 сантыметраў, хударлявага целаскладу, апушчаныя плечы, лоб вертыкальны сярэдні па вышыні, дугападобныя бровы нізкія па вышыні, блакітныя вочы, прамы гарызантальны нос, рот сярэдні таўшчыні, тонкія вусны, якія раўнамерна выступаюць, скошаны падбародак, сярэднія вушы авальнай формы, прамыя светла-русыя валасы, коратка падстрыжаныя.

Быў апрануты ў скураную куртку чорнага колеру з капюшонам, сінія джынсы, кашулю светла-шэрага колеру з чатырма чорнымі паласамі, чаравікі чорнага колеру з замкамі.

Просім грамадзян, якія нешта ведаюць пра месцазнаходжанне Валерыя Байко, патэлефанаваць па нумарах тэлефонаў: **(80176) 749683, (80176)770312, (80176) 771656** або **102.**

**Паводле інфармацыі Маладзечанскага РАУС.**

МЫТНЯ

## Канфіскавалі айфоны на суму больш за 130 мільёнаў рублёў

**АШМЯНЫ. 29 студзеня праз пункт пропуску "Каменны Лог" ехалі два грамадзяніны Расіі на машыне "Мерседэс".**

Яны сцвярджалі, што не маюць тавараў, якія павінны быць пісьмова задэклараваныя.

Аднак падчас дагляду супрацоўнікі памежнай службы знайшлі пяць новых айфонаў "iPhone 6" і пяць новых "iPhone 6 Pius". Іх мужчыны перавозілі ў асабістых рэчах.

Тавар канфіскавалі. Яго папярэдняе ацанілі ў больш за 130 мільёнаў рублёў.

**Паводле Ашмянскай мытні.**

ВОЛЬНЫ ЧАС

# Злавілі шчупакоў вагой больш за 13 кілаграмаў

**ВІЛЕЙКА. МЯДЗЕЛ. Рыбак з Вілейкі Вячаслаў Сідэрчык на вадасховішчы злавіў шчупака вагой 13 кілаграмаў 280 грамаў. Мядзельскі шчупак Віталя Шаблыкі заважыў 13 кілаграмаў 100 грамаў.**

Рыбачыць Вячаслаў Сідэрчык з дзяцінства, з 13 гадоў заняўся зімняй лоўляй. Аднак шчупака ў 13 кілаграмаў 280 грамаў злавіў упершыню.

– 24 студзеня рыбачыў на вадасховішчы каля Сосенкі, – дзеліцца радасцю рыбак пасля ўдачнага клёву. – Спачатку злавіў чатыры невялічкія рыбіны: адна на кілаграм 200 грамаў, другая – на паўтара і апошняя – на два з паловай кілаграмы. І раптам на вуду трапілася вялікая рыбіна.

Рыбак змагаўся з ёй каля 30 хвілін. Побач нікога не было, таму выцягваў сам. Гэта першы вялікі трафей у яго жыцці. Дома ўзважылі шчупака – 13 кілаграмаў 280 грамаў.

Як расказвае мужчына, калі прынёс дамоў рыбіну, то сям'я "абалдзела ад такога шчупака".

### Галаву шчупака пасушыць і павесіць на памяць на сцяну

– Са шчупака зрабілі фарш, пасалілі ікру – жонка вельмі любіць такія бутэрброды, – расказвае мужчына.

Вячаслаў працуе на заводзе "Зеніт". У выхадныя дні звычайна рыбачыць на Вілейскім вадасховішчы, часам ездзіць на Мядзельшчыну.

### Галоўнае для рыбака – цярпенне

– Неяк само атрымалася, што пачаў рыбачыць, – расказвае мужчына. – Таксама дзед жыў недалёка ад рэчкі, што спрыяла такому занятку.

Галоўнае для рыбака – гэта цярпенне. Так лічыць рыбак з Вілейшчыны. Трэба абавязкова паспрабаваць парыбачыць, а калі спадабаецца, то гэта справа ўцягне.

Да 1 сакавіка мужчына ловіць стаўкамі, а калі лёд яшчэ ёсць, то на вуду ловіць плотку.

### "Мяне ж такая рыбіна можа з'есці, як буду купацца летам"

Гэткую рэакцыю мядзелец **Віталь Шаблыка** пачуў ад дачкі сябра, калі заехаў паказаць свой трафей. Шчупак пацягнуў на 13 кілаграмаў 100 грамаў (для дакладнасці ўзважылі на некалькіх вагах).

Злавіў Віталь рыбіну 29 студзеня на возеры Мястра – у раёне Старога Мядзела.

– Не бралася рыба цэлы дзень, пару шчупачкоў толькі было, – расказвае. – Пад вечар, калі ўжо цямнела, здымаў стаўкі. І на апошняй сядзеў такі экзэмпляр.

Выцягнуць дапамог знаёмы **Уладзімір Іванчэнка**. Ён якраз прыйшоў паглядзець, як людзі рыбачаць. Удвух ледзьве выцягнулі шчупака: змагаліся хвілін дваццаць. А як удалося, то на радасцях крычалі "на ўвесь Мядзел".

– Яшчэ праз гадзіну, як выцягнулі, рукі трэсліся ад хвалявання. Бо ўсе думкі былі, каб такую рыбіну не ўпусціць, – кажа Віталь.

**– І які лёс трафея будзе?**

– Галава то, зразумела, на чучала пойдзе. Астатняе – як сям'я вырашыць.

Віталь захапляецца зімовай рыбалкай ужо год 15. Дагэтуль самы вялікі шчупак, што ўдавалася злавіць, быў удвая меншы. Цяпер жа проста пашанцавала, прызнаецца.

**Галіна СІНІЦА, Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА

Віталь Шаблыка дэманструе трафей.

МОЛАДЗЬ

## На конкурсе аўтарскай песні спявалі Noize MC

**МАЛАДЗЕЧНА. Штогадовы раённы конкурс аўтарскай песні, прысвечаны памяці Уладзіміра Высоцкага, прайшоў у цэнтры творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік" 28 студзеня.**

Варта адзначыць, што з кожным годам маштаб канцэрта расце. Юнакоў і дзяўчат, якія жадалі прадэманстраваць свой талент і ўшанаваць памяць ведамага выканаўцы, было дастаткова для таго, каб цалкам запоўніць залу. Пачаткоўцы, неаднаразовыя ўдзельнікі і проста аматары бардаўскіх песень змаглі прыняць удзел у некалькіх намінацыях: аўтарскае выкананне, выканальніцкае сола або ансамбль, песні Уладзіміра Высоцкага.

Несумненна, выканаць песню вялікага барда нялёгка. З гэтай задачай годна справіўся **Валянцін Уласкін**, навучэнец ЦТДіМ "Маладзік", стаўшы пераможцам у гэтай намінацыі.

Галоўная задача конкурсу – знайсці новыя таленты і выклікаць у іх жаданне пісаць самім, укладваць у аўтарскую песню часцінку душы. Раскрыць свае пачуцці змаглі юныя аўтары-выканаўцы **Максім Андрэеў** (Хажоўская СШ) з песняй "Вогнішча кахання" і дуэт з гімназіі №10 **– Дар'я Капцюг і Дыяна Ланюгова** – з песняй "Ідзі і спявай". Дзяўчаты прынялі ўдзел у дзвюх намінацыях, і ў кожнай занялі першае месца.

– Іграем на гітары ўжо каля пяці гадоў, а вось складаць пачалі нядаўна. Мы гэта называем "парывам думак". Тэмы для песень самыя разнастайныя, яны паўсюль. Гэта і школа, і сябры, першае каханне, нашы расчараванні ці поспехі, – распавялі дзяўчаты.

Парадавалі выступленнямі такія выканальніцкія ансамблі, як "Шматкроп'е" (СШ №8), калектыў вучняў Гарадзілаўскай СШ, вакальна-інструментальны гурт СШ№14, а таксама клуб аўтарскай песні "Маладзіка".

Немалаважным крытэрыем, па якім журы ацэньвала ўдзельнікаў, з'яўлялецца артыстызм. Менавіта гэтай якасцю і валодала група "Тры кіты", якая прадстаўляла Селеўскую школу. За падрыхтоўку і арыгінальнасць касцюмаў яны заслужана атрымалі прыз глядацкіх сімпатый.

Прыемна ўразіў і **Антон Забагонскі**, вучань Лебедзеўскай СШ. Для дэбютнага выканання ён абраў песню "Усё ў барда павінна быць сырым".

– Я займаюся ў музычнай школе, вучуся іграць на баяне, – распавядае Антон. – А вось гітару асвоіў сам яшчэ ў верасні. Практыкаваўся дома, шукаў акорды ўпадабаных песень. Потым даведаўся пра конкурс і вырашыў паўдзельнічаць. І нездарма. Але перамога для мяне ўсё ж нечаканая.

Праходзіць конкурсы будуць, але, магчыма, у іншай форме.

– Мне хацелася б летам праводзіць у сваёй сядзібе сапраўдныя фестывалі, прысвечаныя бардаўскай песні. Гэта так выдатна, калі людзі з падобнымі густамі могуць сабрацца разам і спяваць песні куміраў, – падзяліўся сваімі планамі адзін з членаў журы, бард з Маладзечна, кампазітар і рэжысёр **Аляксандр Бялоў**.

Пакуль журы падводзіла вынікі конкурсу, на сцэну выйшлі запрошаныя выканаўцы. Прыемным падарункам для сталых гледачоў стала выступленне трыа "Фіеста" – лаўрэата Грушынскага фестывалю ў 1993 годзе. А прадстаўнікам маладога пакалення прыйшлося даспадобы выступленне гурта, заснаванага **Уладам Мацуновічам**, вучнем гімназіі №10. Хлопцы выканалі каверы на песні "Маё мора" і "Пустыя месцы" вядомага выканаўцы Noize MC. Публіка адразу адрэагавала на любімыя мелодыі і падтрымала юных музыкаў бурнымі апладысментамі.

**Юлія СТРЫГА, школа журналістыкі "Маладзік".**

КОНКУРСЫ

## "Васілісы" прыгатавалі судака смачней

**ВІЛЕЙКА. У дзяржаўным каледжы 30 студзеня прайшло традыцыйнае кулінарнае шоу "Дзень судака".**

Высвятлялі, хто лепш гатуе найсмачнейшую рыбу Вілейскага вадасховішча, дзве каманды. Адну назвалі "Васілісы" (у яе складзе – **Карына Вароніна і Лізавета Дубаневіч**), другую – "Алены" (**Маргарыта Ганчарова і Алеся Апяцёнак**).

Прадстаўленне сваіх камандаў яны зрабілі ў форме казкі. Апрануліся дзяўчаты ў касцюмы вілейскага строю.

Паназіраць за шоу прыйшлі вучні сярэдняй школы №1.

Ацэньвала кулінарныя здольнасці конкурсантак журы. У выніку перамаглі "Васілісы".

Каманды атрымалі дыпломы і грашовыя прэміі ад адміністрацыі каледжа, расказала педагог-арганізатар установы **Святлана Мацукевіч**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ЛІТАРАТУРА

# Выдалі першы фаліянт пра Язэпа Драздовіча

## Памяць беларускага Леанарда да Вінчы ўшанавалі зборнікам "Праз церні да зорак"

**МАЛАДЗЕЧНА. Пра тое, як геніяльны мастак захапіўся космасам, закахаўся ў жонку Браніслава Тарашкевіча і пакінуў творы, якія зачароўваюць і падаюцца жывымі, распавядае ўкладальнік кнігі краязнаўца Міхась Казлоўскі.**



Фота warta.by.

Язэп Драздовіч.




Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Вокладка кнігі.



Фота "Наша ніва".

Укладальнік выдання Міхась Казлоўскі.

Адказваючы на пытанне, колькі часу заняла падрыхтоўка тома, Міхась Казлоўскі прыгадаў размову са сваёй настаўніцай **Яўгеніяй Чаплінскай**:

– Калі я распавядаў, колькі рыхтаваў да выхаду тую ці іншую кнігу, Яўгенія Фамінічна заўважыла: "Ты яе рабіў гэты перыяд, а рыхтаваў усё жыццё". Такія кнігі знянацку не атрымліваюцца. Асоба Язэпа Драздовіча стала для мяне важнай з пачатку 80-х гадоў, калі я ўпершыню ўбачыў яго працы. Яны мяне проста зачаравалі. Я быў закаханы яго працамі, пачаў хадзіць яго сцежкамі.

### Як хадзіў на магілу Драздовіча

Краязнаўцу чакалі сапраўдныя прыгоды, калі ён вырашыў наведаць магілу творцы. Разам з братам ён прыйшоў у вёску Ліпляны на Глыбоччыне, дзе пахаваны мастак. Куды ісці далей, не ведалі, і пагрукалі ў дзверы пляменніцы Драздовіча. Быў кастрычнік, цёмна, праліўны дождж. Жанчына не спужалася і пусціла незнаёмцаў пераначаваць. А раніцай гасцей чакалі конаўкі з малаком, хлеб, а ў запісцы гаспадыня папрасіла пакласці ключы ў пэўным месцы. Раніцай браты схадзілі на магілу да Драздовіча.

– Я ўсё жыццё ішоў да Драздовіча, люблю яго творчасць, – гаворыць Міхась Казлоўскі. – Ён жа сказаў, невядома, да каго звяртаючыся, магчыма, і да мяне: "Мяне яшчэ пашукаюць".

### Як Драздовіч закахаўся ў Радашкавічах

Краязнаўцу з Маладзечна цікавіў перыяд жыцця мастака ў Радашкавічах. Дакладна невядома, калі той працаваў у Радашкавіцкай беларускай гімназіі, але, найхутчэй, у 1925-1926 гадах.

Тут ён стварыў першы партрэт Францішка Скарыны, заснаваў мастацкую студыю, працаваў над алегарычнай казкай "Сон Гераноса". Тут закахаўся ў **Веру Андрэеўну Тарашкевіч**, жонку **Браніслава Тарашкевіча**. Яна яму адказала катэгарычным "Не". Мастак жа ў адказ намаляваў шарж на Тарашкевіча: што той галапуе на кані, толькі седзячы тварам да крыжа. У адказ заснавальнік гімназіі **Уладзімір Уласаў**, які быў дзядзькам Веры Андрэеўны, папрасіў творцу пакінуць Радашкавічы.

### Чаму Драздовіч – геній і беларускі Леанарда да Вінчы

Міхась Казлоўскі заклікае не баяцца гучна называць беларускіх творцаў геніямі, калі яны гэтага заслугоўваюць. Драздовіча ён ацэньвае як геніяльнага мастака зямлі беларускай, сакрэт славы і незвычайнай папулярнасці якога палягае ў нацыянальнай прынцыповасці і шматграннай універсальнасці.

Аднак у 30-я гады да касмічных фантазій аўтара ставіліся па-рознаму, не вельмі сур'ёзна і часам нават кпілі. Міхась Міхасевіч такі падыход называе памылковым: Драздовіч вывучаў астраномію, наколькі яму дазвалялі магчымасці. Ён прыходзіў у Віленскую абсерваторыю, глядзеў праз тэлескоп на зоркі, цікавіўся навукай. У час Цыялкоўскага такое захапленне было натуральным. Укладальнік упэўнены, што, калі б беларусы ў той час мелі сваю дзяржаву, пра Драздовіча на поўным сур'ёзе гаварылі б як пра другога Цыялкоўскага.

Адзін з даследчыкаў творчасці мастака **Юрась Малаш** яго працу "Нябесныя бегі" адсылаў у Расійскую акадэмію навук. У адказе напісалі, што гіпотэзы ўнікальныя, але крыху размінуліся з часам. Калі б ён выдаў свае тэорыі раней, пра яго гаварылі б як пра асобу ў галіне астраноміі.

– Тады быў час такі, што многім не хапала ведаў, – тлумачыць Міхась Казлоўскі. – Але дайце права на інтуіцыю! На некаторых яго работах 30-х гадоў у скафандрах ідуць людзі, а першыя касмічныя скафандры з'явіліся ў 50-х. Тлумачыў гэта тым, што да яго прыходзілі фантастычныя сны. Гэта дзіва! У яго графіцы я бачу, як шуміць вецер у дрэвах. Няўжо вы не бачыце, што яны жывыя, як яны хістаюцца. Пры гэтым аўтар мае фактычна пачатковую мастацкую адукацыю. Гэта інтуіцыя, Божы дар, геніяльнасць!

Нацыянальная прынцыповасць Драздовіча відавочная: усе свае работы падпісваў па-беларуску, па-беларуску вёў дзённікі, беларуская мова стала мовай штодзённага ўжытку. Міхась Казлоўскі дадае: за што ні браўся творца – паўсюль пакінуў след. У галіне астраноміі, мастацтва, літаратуры, археалогіі, этнаграфіі. Таму беларускі мастак **Пётр Сергіевіч** і назваў Драздовіча беларускім Леанарда да Вінчы.

**Кніга ў лічбах**

– Важыць 2,5 кілаграма
– Наклад 1000 экзэмпляраў
– 543 старонкі + блок ілюстрацый.

### Вандроўнік і дзівак

Драздовіч, хоць і паходзіў са шляхетнага роду, жыў бедна, шмат падарожнічаў. Каб зарабляць, маляваў сялянам дываны. Пры жыцці яго лічылі дзіваком, часам наіўным – але хто акрамя дзівакоў стварыць нешта, што выходзіць за межы звычайнага. Міхась Казлоўскі заўважае, што з усіх дзеячаў мінулага яго архіў захаваўся найлепш – і дзённікі, і мастацкія працы, і літаратурныя.

### Кніга канцэнтруе драздовічазнаўства

Галоўнай цяжкасцю ў падрыхтоўцы ўкладальнік называе тое, што не было бібліяграфіі Драздовіча. У слоўніку "Беларускія пісьменнікі" пад рэдакцыяй прафесара **Адама Мальдзіса** ёсць толькі некалькі пазіцый. "Праз церні да зорак" упершыню збірае даследчыя працы і літаратурныя работы, а таксама спадчыну творцы, якія разам раскрываюць геній беларускага мастака.

Пасля канферэнцыі ў 2013 годзе, прысвечанай 125-годдзю Язэпа Драздовіча, госці прапанавалі Міхасю Казлоўскаму падрыхтаваць зборнік.

Кнігу "Язэп Драздовіч. Праз церні да зорак" выпусціла выдавецтва "Мастацкая літаратура" па заказе і фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі. Укладальнік Міхась Казлоўскі, мастацкі рэдактар **Анастасія Капульцэвіч**, рэдактар **Анатоль Зэкаў**.

У першай частцы зборніка размешчаная навукова-папулярная публіцыстыка, дзе аўтары разглядаюць розныя аспекты творчасці і дзейнасці Драздовіча. У другой частцы – творы, прысвечаныя мастаку. У трэцяй частцы – спадчына Драздовіча: аповесць "Вялікая шышка", паэма "Трызна мінуўшчыны", дзённік. Асобным блокам стаіць ілюстрацыйная частка – мастацкія творы і факсіміле кнігі "Нябесныя бегі".

Выданне "Язэп Драздовіч. Праз церні да зорак" адкрывае асобу Язэпа Драздовіча для тых, каму ён сказаў "мяне яшчэ пашукаюць".



Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by

ВЫСТАВЫ

# Мастакі з "Абуджэння" дэманстравалі, як маляваць партрэты і нацюрморты

**ВІЛЕЙКА. У выставачнай зале імя Нікадзіма Сілівановіча краязнаўчага музея 23 студзеня пачала экспанавацца выстава "Вілейскія далягляды" творчай суполкі "Абуджэнне" мастакоў з Мінска і Узды.**

Суполка невялікая, але вельмі мабільная. Ужо некалькі гадоў яе ўдзельнікі наладжваюць творчыя падарожжы па раённых цэнтрах Беларусі і прапагандуюць рэгіянальную тэматыку. Яна ўключае самы папулярны пейзажны жанр жывапісу і графікі, а таксама гістарычныя і сучасныя вобразы ў партрэтным і сюжэтным жанрах.

Пасля завяршэння кожнай выставы мастакі перадаюць у дар музейным установам частку сваіх твораў, каб папоўніць мастацкія калекцыі, якія потым рэгулярна выстаўляюцца ў раёнах і выхоўваюць эстэтычныя густы нашых сучаснікаў.

Нястомны арганізатар перасоўных выстаў суполкі, уздзенскі мастак і педагог **Андрэй Лычкоўскі** пазнаёміў гледачоў са сваімі пейзажнымі вобразамі Міншчыны, сярод якіх шмат матываў вілейскага краю.

Яго тэмпераментным жывапісным творам уласцівы яскравы і аптымістычны каларыт. І самі матывы яго пейзажаў як бы заклікаюць у дарогу, каб наведваць усё новыя маляўнічыя мясціны роднай зямлі.

**Фёдар Ладуцька** прапануе ў сваіх пастэльных творах паглыбіцца ў свет цішыні, гармоніі і медытацыі на берагах рэк і азёр. Яго вобразныя адлюстраванні маюць вельмі прыцягальны, шматзначны і нават казачны характар.

**Яўген Шунейка** і **Уладзімір Сайко** прысвяцілі свае эксперыментальныя творы тэматыцы Першай сусветнай вайны, якая пакінула на Вілейшчыне свае незабыўныя гістарычныя сляды. А таксама партрэтным вобразам, сярод якіх і мастакі-наватары **Уладзіслаў Страмінскі** і **Кацярына Кобра**, якія ў 1920-х гадах пачыналі ў Вілейцы развіваць накірунак жывапіснага і скульптурнага стылю "ўнізм".

У суполцы "Абуджэнне" толькі чатыры асноўныя ўдзельнікі. Але існуе практыка запрашэння іншых калег у выставачныя праекты. На гэты раз госцем суполкі была мінская мастачка **Вольга Гацко**, якая з'яўляецца аўтарам дэкаратыўных і святочных пейзажаў і нацюрмортаў.

Вілейскі мастак-краязнаўца **Эдуард Мацюшонак** сказаў пра вартасць такіх творчых сустрэч для грунтоўнага ўмацавання патрыятычнага выхавання нашых землякоў.

**Потым мастакі правялі творчы майстар-клас. Паказалі свае свежыя эцюды з архітэктурным асяроддзем Вілейкі, якія яны паспелі намаляваць да адкрыцця выставы, а таксама прадэманстравалі, як трэба маляваць партрэты і нацюрморты з натуры.**

Трэба сказаць, што такое творчае свята ніколі не забудзецца і будзе мецць свой працяг. Бо мастакі суполкі "Абуджэнне" маюць намер яшчэ не раз наладжваць творчыя сустрэчы з зацікаўленымі і шматлікімі вілейскімі гледачамі.

Выстава "Вілейскія далягляды" будзе працаваць на працягу месяца.

**Вольга КОЛАСАВА,**
**старшы навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея.**



Фота Юліі ЛАХВІЧ.

Яўген Шунейка малюе партрэт.

**Размясці сваю аб’яву не менш за ТРЫ РАЗЫ, і яе прачытаюць у Інтэрнэце на сайце Rh.by**

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **АДДЗЕЛКА ДАМОЎ САЙДЫНГАМ**. Вадасцёкавыя сістэмы. Замер, кансультацыя, дастаўка. Іншыя аддзелачныя работы. ІП Барысевіч А.П. УНП 690686296. Т. (8-029) 7085907, (8-029)1022232.*

• Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• **БУХГАЛТАРСКІЯ ПАСЛУГІ ДЛЯ ФІЗІЧНЫХ І ЮРЫДЫЧНЫХ АСОБ. СТВАРЭННЕ І ЛІКВІДАЦЫЯ АРГАНІЗАЦЫЙ, ВЯДЗЕННЕ, АДНАЎЛЕННЕ БУХГАЛТАРСКАГА ЎЛІКУ, УСЕ ПЫТАННІ ПА ЗДАЧЫ ПАДАТКОВЫХ ДЭКЛАРАЦЫЙ, ФСЗН, БЕЛДЗЯРЖСТРАХ**. ЧУП “Мегама” УНП 691887778, г.Маладзечна, ул. В.Гасцінец,143 (ГЦ “Тройка”), офіс 520. **Т. ВЭЛКОМ (8-029) 1298889, МТС (8-029) 7498889,** mail: megama@tut.by.*

• Вароты, агароджы, навесы, казыркі. Зварныя, кованыя. З прафнасцілу. Наяўны і безнаяўны разлік. Дастаўка, мантаж. ІП Горынаў С.В. УНП 691886651. Т. (8-033) 3917208, (8-029) 9857268.*

• Выраб і ўстаноўка міжпавярховых лесвіц з дрэва. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клаўсюк А.А. УНП 691512274. Т. (8-029) 7792477.*

• Дах, заліўка фундаментаў, вагонка, блокхаус, кладка, аддзелка лазняў, гіпсакардон, ламінат. Наяўны/Безнаяўны. Замер, дастаўка матэрыялу. Па РБ. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа).*

• Кантрольныя, курсавыя, рэфераты. ІП Герасімчык Н.П. УНП 691517659. Т. (8-029) 5503071.*

• **ПАСЛУГІ ЭЛЕКТРЫКА** (рамонт электраабсталявання, мантаж і інш.). **ПРОДАЖ І ЎСТАНОЎКА** сістэм відэаназірання, **ВІДЭАДАМАФОНАЎ, ВІДЭАВОЧКАЎ**. ІП Драгун А.О. УНП 691884197. Т. МТС 7706263, Вэлком 9710597.*

• **ПАШЫЎ АЎТАМАБІЛЬНЫХ СЯДЗЕННЯЎ І ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці і розных матэрыялаў за наяўны і безнаяўны разлік. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. (8-029) 6932184.*

• Перацяжка мяккай мэблі, рамонт матрацаў, вялікі выбар тканін. ІП Ярашэвіч Е.С., УНП 691861564. Т. (8-033) 9000440, (8-029) 6206260.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА. ГАРАНТЫЯ.** ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347.*

• **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ.** Замена труб, разводка ацяплення, каналізацыя, падключэнне пральных машын, зборка і ўстаноўка душавых кабін і іншыя сантэхнічныя работы. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Шляпо У.У. УНП 691175364. Т. Вэлком (8-029)1279252, МТС (8-029) 5587767.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• **СТУДЫЯ ТАТУ** “Карона Арт” прапануе татуаж броваў, павек і губ, мастацкую татуіроўку. ІП Кушч О.А., УНП 691880191. Т. (8-029) 3345044, (8-029) 7080997.*

• Усе віды будаўнічых работ. Наяўны і безнаяўны разлік. ЧБУП “ЮлМірБуд”, УНП 591804221. Т. (8-029) 2827362.*

• Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*

• **ШОУ** клоўна – дзіцячыя святы, дні нараджэння, віншаванні. Вяселлі, юбілеі, карпаратывы для дарослых, выпускныя вечары. ІП Кананові І.Е. УНП 691501156. Т. (8-029) 8596692 МТС, (8-044) 4904791 Вэлком.*

• **ЯКАСНАЯ АДДЗЕЛКА КВАТЭР, ДАМОЎ. ГІПСАКАРДОН (АРКІ, СТОЛІ, ПЕРАГАРОДКІ), ШПАКЛЁЎКА, ТЫНКОЎКА, ПЛІТКА.** ІП Славашэвіч І.Д. УНП 691865317. Т. (8-029) 8738112.*

# РОЗНАЕ

## ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Арматура, сетка для сцяжкі, гідраізаляцыя, труба металічная. Дапамагу з дастаўкай. Т. МТС (8-029) 7737697.*

• Вароты гаражныя. Маладзечна. Т. (8-029) 5028269.*

• Лісты металічныя. Маладзечна. Т. (8-029) 5028269.

• Сетка рабіца 1,5-1,8 м.в., 50 шт, слупы металічныя. Арматура d 8,10,12 – 1800 м.п., вугалок 40 м.п., труба профільная 300 м.п. Т. МТС (8-033) 6603068.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Бульбасаджалка і бульбакапалка да міні-трактара МТЗ-132н. Валожын. Т. (8-044) 5543365.*

• Катлы. Печы. Лазні. Бетонамяшалкі. Воданагравальнікі. Помпы. Сантэхніка. Ацяпленне. Культыватары. Сайт 940.BY. ІП Глінскі М.М. УНП 190337652. Т. (8-029) 2599940.*

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ “ТРЫКАЛОР” – СКІДКІ! АКЦЫЯ! ЛІЧБАВЫЯ ПРЫЁМНІКІ АД 350000 РУБ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, HD.** Растэрміноўка без %. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, ЛІЧБАВАЕ ТБ.** Растэрміноўка без % да 12 месяцаў. ГД “Тройка”, п. 536. ПГУП “Ліцераль”. УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

• Манітор вадкакрышталічны Філіпс, мультымедыйная клавіятура, праворная мыш, усё ў выдатным стане. Т. (8-029) 5649638.

**Мэбля**

• Міні-тахта, 2 прыложкавыя тумбачкі, колер бук. Маладзечна. Т. (8-033) 6684445.

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Козы пакрытыя, дамашнія індыкі, пеўні, цацаркі, маладыя казляняты на мяса. Т. (8-044) 7462476.

• Парасяты в’етнамскай пароды. Маладзечна. Т. (8-033) 6316635, (8-0176) 723482.*

• Свінні. Т. (8-029) 3350316.*

• Трусы (маладняк і мяса). Т. (8-029) 7628438.*

• Шчаняты заходнесібірскай лайкі. З радаслоўнай. Т. (8-029) 9385282, (8-01771) 76365.*

• Шчаняты ёркшырскага тэр’ера, прышчэпленыя, з радаслоўнай. Т. Вэлком (8-029) 6135093.*

• Шчаняты сярэднеазіяцкай аўчаркі, нарадз. 24.12.2014 г., 2 500 000 руб. Т. (8-029) 9295747.*

**Іншае**

• Батарэі чыгунныя. Т. (8-029) 8789740.*

• **БУСТАР (АЎТАКРЭСЛА)**, 4-11 год, новы. Т. (8-029) 6315972.

• Прэс-падборшчык ПРФ-180, капалку аднарадную. Т. (8-029) 5509642.*

## КУПЛЮ

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

• Прычэп самазвальны для Т-25. Т. (8-029) 6265423.*

**Бытавую тэхніку**

• Плазменныя і LCD тэлевізары ў няспраўным стане. Т. (8-029) 6434740.*

**Музінструменты**

• Акардэон поўны. Т. (8-029) 3069965.*

**Антыкварыят**

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. “Беларуская Энцыклапедыя” імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Пчаліныя домікі б/у. Т. МТС (8-033) 6029614.

• Фотаапараты “Зеніт” ці аб’ектывы да іх. Т. (8-029) 6637111.*

• Шкуркі куніцы, выдры. Т. (8-029) 8552646.

## ІНШАЕ

• Шукаю спадарожнікаў у Беласток. Т. МТС (8-029) 5743335, Вэлком (8-029) 6535627.

# ПРАЦА

## ШУКАЮ РАБОТУ

• Дапамагу папілаваць дровы. Т. (8-029) 2609392 (пасля 17.00).*

• Масажыста. Т. (8-029) 9756978.*

• Маю досвед па ўстаноўцы міжпакаёвых дзвярэй пад ключ. Ламінат, дошка, гіпсакардон любой складанасці, аркі, нішы, перагародкі, столі, МДФ, пластык (унутраны і знешні) і г.д. Увесь прафінструмент. Т. Вэлком (8-029) 3778333.

• Па ўстаноўцы дзвярэй, драўляных лесвіц і іншыя будаўнічыя работы. Т. МТС 7584853.*

• Па шліфоўцы драўлянай падлогі, выдаленні лакафарбавых пакрыццяў, шпатляванне, лакіраванне. Т. (8-029) 2872066.*

• Праграміста (праграміраванне ў 1С, у DOS, суправаджэнне задач “Улік ОС”, “Улік МЦ”,”Улік ТМЦ і выпіска са склада”, “Калькуляцыйная картачка”). Маладзечна. Т. Вэлком (8-029) 145-08-89, МТС (8-029) 263-88-79.*

# Ураджэнец Мільчы знайшоў сваякоў і землякоў у Сібіры

**ВІЛЕЙКА. Калі Пятру Цыгалку было 12 гадоў, ён пачаў рабіць першыя запісы пра вёску Мільча і яе жыхароў. Ужо 54 гады мужчына вывучае гісторыю роднай вёскі.**

Ён сабраў многа дакументаў, у тым ліку ў яго захаваліся царкоўныя кнігі з мільчанскай царквы.

Па іх ён і склаў свой радавод. Таксама дапамагае іншым выхадцам з Мільчы і навакольных вёсак знайсці свае карані.

Выхадцаў з Мільчы ў Сібіры Пётр Цыгалка пачаў шукаць ад 2001 года. Нагодай для гэтага стаў фотаздымак, які ён паказаў сваячцы **Ганне Судніковіч**.

### Віляйчане перапісваліся з сібіракамі да 1970 года

– Аднойчы быў у Забароддзі ў сваякоў, – расказвае Пётр Цыгалка. – Пакажу сваёй цётцы Ганьцы фотаздымак, на якім быў **Мікалай Кур'яновіч**, дэпутат Дзяржаўнай думы чацвертага склікання Расіі. Спытаўся, ці падобны гэты чалавек на некага з мясцовых. Яна прыгледзелася і раптам усклікнула: "Дык гэта ж **Коля Бакас** з Мільчы!" Так у вёсцы празвалі Мікалая Кур'яновіча. Пасля гэтага выпадку я вырашыў паспрабаваць знайсці сваякоў і аднавяскоўцаў у Тулуне.

Таксама мужчына паразмаўляў са сталымі людзьмі. Яны ўзгадалі, што іх сваякі выязджалі ў Сібір. Перапісваліся паміж сабой да 1970 года.

### Вёску Усць-Кульск у Сібіры стварыў жыхар Саланога

Праз некаторы час Пётр Цыгалка даведаўся, што ў Расіі ў Тулунскім раёне Іркуцкай вобласці ёсць вёска Усць-Кульск. Аказваецца, яе заснаваў у 1896 годзе **Антон Кароль** з чатырма сынамі: **Мікалаем, Канстанцінам, Аляксандрам** і **Іванам**. Сям'я паходзіла з вёскі Саланое, што ў кіламетры ад Мільчы.

Трое сыноў Антона Караля былі жанатыя, толькі Іван халасты. Акрамя сям'і па прозвішчы Кароль у вёску перасяліўся і **Франц Паўтарака**. Лістом ён запрасіў сем'і **Андрэя Праліча** і **Івана Мурашкіна**. Яны прыехалі ў 1908 годзе.

### Налічыў 19 прозвішчаў людзей, што пераехалі ў Сібір

– У 1890-х гадах у Сібір паехала шмат людзей з навакольных вёсак каля Мільчы, – расказвае Пётр Цыгалка. – Сярод іх Бурсевічы, якія паходзілі з Мільчы; Судніковічы, Карповічы, Аксючыцы – з Вардамічаў; Кізіна, Пачарней, Асаёнак – з вёскі Хацень. Таксама Бяльковічы, Паплёўкі, Станькі, Паўтаракі, Каралі, Лобані, Сідаровічы, Шавелі, Ляўко, Клусы, Мурашкі, Дашкевічы.

Усяго даследчык Мільчы налічыў 19 прозвішчаў людзей, якія пераехалі з Мільчы і навакольных вёсак у Сібір.

### Ехалі ў пошуках больших надзелаў

Як тлумачыць мужчына, з'язджалі, бо ў навакольных вёсках былі вельмі маленькія надзелы зямлі – не хапала, каб пракарміць сям'ю. Ва Усць-Кульску агароды ў той час былі па 20 сажняў шырынёй (43,6 метра) і 60 даўжынёй (130,8 метра). Гэтыя памеры былі ўстаноўленыя для ўсіх перасяленцаў.

**Павел Мурашкін**, сын Івана Мурашкіна, узгадваў, што ў Саланым, адкуль сям'я пераехала, надзелы былі меншыя – "метраў пяць шырынёй і 100 даўжынёй".

### Голад гнаў людзей шукаць лепшай долі

У 1924 годзе прыехаў землямер **Паўлаў**. Ён пачаў адводзіць землі для новых перасяленцаў, якія ў пачатку дваццатых гадоў пачалі ехаць як з Расіі, так і з Украіны, Беларусі. У той час быў павальны голад.

Перасяленцы ўтварылі вёскі Паўлаўку, Калінаўку, Андрэеўку, Аляксандраўку і Мугун.

### Назвы новых вёсак – даніна памяці роднай зямлі

Першую названую вёску заснавалі людзі па прозвішчах Асаёнак і Судніковіч. Аляксандраўку – **Парфён Кур'яновіч** з шасцю сынамі: **Васілём, Андрэем, Канстанцінам, Мікалаем, Фёдарам** і **Антонам**. Мугун таксама заснавала сям'я Кур'яновічаў.

Вёска Паўлаўка ёсць і ў Вілейскім раёне. Яна знаходзіцца недалёка ад Мільчы.

– Напэўна, гэта даніна памяці роднай зямлі, з якой пачалося жыццё, – разважае Пётр Цыгалка. – Таму, пераехаўшы ў іншае месца, нашы землякі назвалі так і новае паселішча.

### У расійскай і беларускай Паўлаўкі падобны лёс

**Любоў Станько**, якая цяпер жыве ў расійскай Паўлаўцы, адзначыла, што іх вёска амаль развалілася. Засталося шэсць двароў, старыя людзі даўно ўжо



На фотаздымку сям'я перасяленцаў Кур'яновічаў: Фёдар з жонкай Марынай, іх дачка Таццяна з чатырма сынамі, брат Міхаіл з жонкай Фёклай, дзве суседкі сям'і Кур'яновіч. Архіўны фотаздымак.

Фота забяспечана Ірынай АЎСІЕВІЧ.

памерлі.

Пётр Цыгалка падзяліўся сваім болем у лісце да зямлячкі: "Прывітанне Люба! Ты пішаш, што ў вашай Паўлаўцы засталося толькі шэсць двароў. А нашу Паўлаўку, як піша пісьменнік **Міхаіл Судніковіч**, зруйнавалі з зямлёй. Старыя людзі памерлі, а моладзь раз'ехалася па гарадах. Цяпер на месцы вёскі каля дарогі стаіць капліца. На Вялікдзень каля яе збіраюцца былыя вяскоўцы".

А вось Калінаўкі ў Вілейскім раёне няма, затое была Малінаўка, каля Заложына.

### Снег быў у чэрвені, але прызвычайваліся і да гэтага

Ірына Аўсіевіч, якая жыве ў Тулуне, але продкі яе з Вілейшчыны, распавяла ў лісце пра жыццё перасяленцаў: "У Аляксандраўцы і Мугуне жылі беларусы. Але дакладна ведаю, што на дзвюх вуліцах Палтаўшчына і Чарнігаўшчына жылі ўкраінцы. Адна з вуліц называлася Гомельшчына.

На пустое месца ехалі людзі – вакол тайга. У канторы, дзе сустракалі прыезджых, паказвалі месцы для пасялення. Мужчыны ехалі, глядзелі, а пасля ўсе разам дабіраліся.

Паводле дзяржаўнай праграмы, людзям павінны былі нешта даваць, але атрымлівалі толькі насенне і сякеры, плуг на некалькі сем'яў. Ды пра якія плугі магла ісці гаворка, калі трэба было выкарчоўваць лес!

Першы год зімавалі ў зямлянках. Раскарчоўвалі зямлю – усё, што абробіш, тваё.

Мая бабуля расказвала, што неяк раніцай, у чэрвені, прачнуліся, а вакол усё ў снезе. Бабы пагаласілі, паразводзілі рукамі, а рабіць няма чаго – прызвычаіліся, звыкліся. Некаторыя збязнелі, некаторыя пасля вярталіся туды, адкуль прыехалі. Аднак працалюбівыя сем'і і тыя, у якіх было многа мужчын, падняліся на ногі".

### Знайшоў землякоў у інтэрнэце

Цяпер Пётр Цыгалка кантактуе праз інтэрнэт з многімі выхадцамі з Мільчы і навакольных вёсак, якія цяпер жывуць у Сібіры. Так паступова мужчына пачаў перапісвацца з **Ірынай Аўсіевіч, Юрыем Пачарнеем, Юрыем Кур'яновічам**, Любай Станько.

– Любе вельмі пашанцавала, – адзначае мужчына. – Знайшлося шмат сваякоў у Мільчы, ва ўнука **Міхаіла Станько** захаваўся стары фотаздымак з Сібіры. Таксама я адшукаў спіс яе сваякоў, якія выязджалі ў той час з Мільчы. Сярод іх **Лука**, яго сыны **Рыгор** і **Аляксандр Станько**. А вось два браты Лукі Станько – **Андрэй** і **Міхаіл** – засталіся ў Мільчы. Дарэчы, мы з Любай – далёкія сваякі. Мой прадзед ажаніўся з дачкой царкоўнага старасты **Якава Станько Каралінай**.

### Меркавалася, што сваякі былі ссыльнымі

Падчас перапіскі жанчына адказала, што ў іх Паўлаўцы жывуць Асаёнкі, Бяльковічы, Судніковічы, Казакевічы. А вось людзі з прозвішчамі Ляўко і Шавель – ва Усць-Кульску.

Яна пацвердзіла, што яе дзеда звалі Рыгор, прадзеда – Лука. Жанчына ведала, што іх род паходзіць з Беларусі, аднак думала, што яе сваякі былі ссыльнымі.

– Мой дзед памёр рана, амаль адразу пасля вайны, – піша яна ў лісце. – Дзядуля не паспеў расказаць пра продкаў, і кантакты са сваякамі згубіліся.

Жанчына прасіла расказаць пра сваякоў з Беларусі. Пашукаўшы ў спісах, пагаварыўшы з людзьмі, Пётр Цыгалка адшукаў, што сваякі Любові Станько не былі ссыльнымі. Яны паехалі ў Сібір у час сталыпінскай рэформы ў пачатку 1900-х гадоў.

### З роду Станькоў у Мільчы толькі жанчына 85 гадоў

Таксама Пётр Цыгалка распавёў пра сваякоў яе дзядзькі Міхаіла. Напрыклад, унукі **Аркадзь** і **Яўген** былі святарамі. А **Андрэй** і **Наталля Станько** атрымалі званне Праведнікаў свету за тое, што выратавалі яўрэяў у час Другой сусветнай вайны.

Цяпер у Мільчы са Станькоў засталася толькі **Вера Станько**, якой 85 гадоў.

### Шукалі звесткі пра дзеда, але безвынікова

Юры Кур'яновіч, якога Пётр Цыгалка таксама знайшоў па інтэрнэце, адзначыў, што той вельмі падобны на **Міхаіла Кур'яновіча**, які жыве ў Мільчы.

Юры, які цяпер жыве ў Омску, узгадаў, што яго продкі паходзяць з Саланога.

– 90-гадовы **Аркадзь Кур'яновіч** сказаў мне пры сустрэчы, што радаслоўная Юрыя пачынаецца ад **Фёдара Кур'яновіча**, – расказвае Пётр Цыгалка. – Я пачаў правяраць па царкоўных кнігах, напісаў пра гэта Юрыю. Адзначу, што яго сваякі і цяпер жывуць у Мільчы.

Мужчына ведаў, што Мікалай – гэта яго дзед, звесткі пра яго сям'ю вельмі доўга шукала: "Пісалі паўсюль, нават да Масквы дабраліся, аднак безвынікова".

### Вывучае царкоўныя кнігі і знаходзіць там памылкі

Па царкоўных кнігах Пётр Цыгалка высветліў, што яго дзядулю Ягора і Ягорава брата Мікалая расстралялі ў 1938 годзе ў Краснаярску.

Таксама даследчык Мільчы заўважыў, што ў месцы нараджэння Ягора Кур'яновіча дапусцілі памылку. Запісанае сяло Мальчанскае Мінскай губерні, а трэба Мільчанскае.

Пётр Цыгалка і цяпер працягвае адшукваць і кантактаваць са сваякамі і аднавяскоўцамі, якія жывуць ва Усць-Кульску, Паўлаўцы, Калінаўцы, Андрэеўцы, Аляксандраўцы і Мугуне.

Галіна СІНІЦА.

**Даведка "РГ".** Сажань – 2,18 метра.

● КРАЯЗНАЎСТВА

# Знайшлі этыкетку аптэкі Ільы

**Як добра, што людзі захоўваюць каштоўныя рэчы свайго часу. Так падумалася, калі Віктар Пятровіч Буркевіч перадаў у школьны народны краязнаўчы музей "Ільянскія далягляды" пажоўклую ад часу паперку, назваўшы яе рэцэптам.**

Аказалася, што гэта зусім не рэцэпт, а аптэчная этыкетка, якіх ужо ў такім выглядзе няма.

Цяпер этыкеткі наклейваюць на ўпакоўкі ці адразу кладуць у іх.

Раней жа многія лекі рабілі ў саміх аптэках па рэцэптах дактароў. І аптэкары павінны былі прыклада́ць да прыгатаваных раствораў ці парашкоў форменныя этыкеткі, на якіх ад рукі пісалі неабходныя звесткі.

Менавіта так патлумачыў галоўны доктар Ільянскай участковай бальніцы **Юры Лявонавіч Панятоўскі**. Ён паказаў, як звужаный часткай этыкетка мацавалася гумовым кольцам на бутэлечку з лекамі, нібы гальштук на шыю.

Прыглядзімся і мы да гэтай аптэчнай этыкеткі больш уважліва.

На ён напісана, што выдадзена 21 красавіка 1933 года. Прозвішча гаспадара на бланку папольску надрукавана: "Apteka B. Kłoka m. Ilja pow. Wilejski".

Гэта сапраўднае адкрыццё: цяпер мы ведаем, хто ў Ільі забяспечваў хворых лекамі. Ад рукі і па-польску на этыкетцы напісана імя таго, каму рэцэпт выдалі – "Буркевіч".

Мікалай Аляксандравіч Буркевіч нарадзіўся ў 1904 годзе. Жыў у Ільі і памёр тут у 1988 годзе, пражыўшы 84 гады. Улічым, што з маладых год ён не меў добрага здароўя, часта хварэў. Асабліва яго падводзілі органы стрававання: былі і гастрыты, і язвы.

Верагодна, ільянскія дактары і аптэкары добра яго ратавалі. А Мікалай жа праз свае хваробы не асмеліўся нават ажаніцца, каб не быць абузай. І толькі ўжо ў сталым узросце прызнаўся, што 30 год кахаў адну жанчыну, але так і не прызнаўся.

Мікалаю нават давялося пабываць у турме ў 1956 годзе за тое, што прадаваў самагонку, а здалі, як кажуць людзі, суседзі.

Савецкая дзяржава давала яму пенсію – спачатку 7 рублёў, пасля 20.

Пра ўсё гэта распавёў пляменнік Мікалая, Віктар Буркевіч, якому хутка споўніцца 78 год.

З яго слоў вынікае, што дзядзька быў добрым чалавекам. Дапамагаў гадаваць дзяцей пляменніка. Тады Віктар ездзіў на працу ў Залессе на шклозавод, а яго жонка, Галіна Міхайлаўна, – у Ільянскую бальніцу медсястрой.




Фота забяспечана Уладзімірам КАЖАМЯКАМ.

Этыкетка з Ільянскай аптэкі 1933 года.



Фота забяспечана Уладзімірам КАЖАМЯКАМ.

Віктар Буркевіч знайшоў этыкетку ў рэчах свайго дзядзькі.



Фота забяспечана Уладзімірам КАЖАМЯКАМ.

Мікалай Буркевіч, якому выдалі ў Ільі рэцэпт у 1933 годзе.

Яны і цяпер прыгадваюць Мікалая з удзячнасцю. Галіна Міхайлаўна нават напісала пра яго крыху жартаўлівае апавяданне "Як дзед Мікола нянькай "падпрацоўваў", якое надрукавала "РГ" у 2009 годзе.

Якія ж лекі выпісаў доктар у 1933 годзе?

Аказваецца, гэта быў раствор магнезіі, які ўздзейнічае як слабіцельнае. Такое ўздзеянне пацвердзіў доктар Панятоўскі.

Этыкетка мае і мастацкую вартасць. На ёй ёсць малюнак – аптэкарскі фірменны знак з медыцынскімі сімваламі.

Здзіўляе, што гэта этыкетка ажно 82 гады захоўвалася. 55 год праляжала ў Мікалая Аляксандравіча, а пасля яго смерці пляменнік Віктар Пятровіч разам з фотаздымкамі, дакументамі і іншымі рэчамі захоўваў этыкетку ў сябе.

Перададзеная ў школьны музей этыкетка – сапраўды каштоўнейшы экспанат. Магчыма, адзіная ільянская, якая захавалася ў свеце.

Шаноўныя чытачы, работнікі музеяў будуць заўсёды вельмі ўдзячныя тым, хто прынясе цікавы экспанат, які расскажа будучым наведнікам сваю гісторыю.

**Уладзімір КАЖАМЯКА,**
**Ілья.**

# Ільянцы захоўваюць памяць пра бальніцу, якой ганарацца

*Заканчэнне.*
*Пачатак у №5.*

**ВІЛЕЙКА. Жыхары мястэчка Ілья агульнымі намаганнямі на чале з галоўным доктарам участковай бальніцы Юрыем Панятоўскім вырашылі напісаць кнігу пра бальніцу і тых, хто працаваў і працуе ў ёй.**

Галоўны доктар Ільянскай участковай бальніцы Юры Панятоўскі ў 2013 годзе стаў лаўрэатам трэцяй ступені рэспубліканскага конкурсу "Доктар года" ў намінацыі "Доктар агульнай практыкі".

Гэта вельмі прэстыжны конкурс і строгі, бо ўлічваліся шматлікія паказчыкі асабістых дасягненняў канкурсантаў. Пад увагу бралася і тое, якога ўзроўню дасягнула бальніца пад кіраўніцтвам галоўнага доктара. Дзеля гэтага праводзілася праверка на месцы кампетэнтнымі службамі, а яшчэ і з боку рэспубліканскага тэлебачання. У выніку – трэцяе месца. І яно прэстыжнае, што радуе і абавязвае, надае ўпэўненасці ўсім, усяляе надзею.

Значыць, ёсць магчымасць Ільянскай участковай бальніцы ў будучым быць лепшай у краіне. Для гэтага ёсць усе ўмовы. І найпершая з іх – зладжаны калектыў бальніцы на чале з галоўным доктарам, лаўрэатам рэспубліканскага конкурсу.

Наведваючы паліклініку і бальніцу, нельга не заўважыць, што тут існуе дысцыпліна, чысціня і парадак. Тут усе супрацоўнікі: дактары, медсёстры, санітаркі і тэхнічны персанал заўсёды імкнуцца рабіць сваю справу найлепшым чынам. Прафесіяналізм, адказнасць і ўважлівыя адносіны да ўсіх хворых – на першым месцы.

І гэта бачна, гэта адчуваеш адразу, калі трапляеш у паліклініку на прыём ці ў бальніцу на лячэнне. Тады пранікаешся даверлівасцю і павагай і да доктара, і да медсястры, і да ўсіх, хто імкнецца дапамагчы хвораму чалавеку.

І невыпадкова першы намеснік міністра Міністэрства аховы здароўя краіны **Дзмітры Піневіч**, пабыўшы ў бальніцы і паліклініцы, аднойчы сказаў, што за Ільянскую бальніцу міністэрству не будзе сорамна і сюды можна прывозіць любую дэлегацыю.

Але ж супрацоўнікам, канешне, трэба імкнуцца падняцца яшчэ вышэй на адну-дзве прыступкі, каб стаць першымі. Умовы для гэтага ёсць. Толькі неабходна пастарацца ўсім і кожнаму. Некаму яшчэ трэба падвучыцца, удасканаліць свае веды, прафесійныя навыкі, сваю кваліфікацыю, палепшыць у бальніцы санітарна-гігіенічныя ўмовы і вырашыць іншыя праблемы, у тым ліку прафілактычныя, эстэтычныя, а таксама і жыллёва-камунальныя.

І галоўны доктар, і калектыў на гэта якраз і накіраваныя: маюць свае планы, прапановы і жаданне іх ажыццявіць.

Вядома ж, калектыву патрабуецца дапамога з боку вышэйстаячых арганізацый. Дапамога бальніцы – гэта іх непасрэдны абавязак. Тут і спонсары павінны дапамагчы ў набыцці абсталявання, у рамонце і г.д. Гэта могуць зрабіць тыя ж лясніцтвы, ММЦ у Ільі, а яшчэ і вілейскія дабрадзеі адгукнуцца.

Напрыклад, ёсць патрэба мець пры бальніцы інтэрнат для маладых спецыялістаў, якія прыязджаюць у Ілью ці не штогод на працу па накіраванні з медыцынскіх універсітэтаў ці каледжаў. Пры бальніцы ёсць пустуючы капітальны аднапавярховы мураваны будынак, які знаходзіцца ў добрым стане, толькі патрабуе невялікага рамонту. Для гэтага неабходныя згода і падтрымка зверху і пэўныя, не надта і вялікія, сродкі. Чаму гэта не зрабілі, калі стваралі ў Ільі аграгарадок?

Мы хочам, каб наша бальніца была найлепшай, і мы, жыхары Ільі і навакольных вёсак, гатовыя садзейнічаць і дапамагаць, чым зможам, бо гэта ж бальніца для нас.

### Планы, задумы, мары

Успамінаючы супрацоўнікаў Ільянскай бальніцы, думаю, што мы абавязкова павінны зрабіць дзеля іх добрую справу, якую яны заслужылі, і напісаць пра іх змястоўную кнігу. Напісаць і гісторыю бальніцы, пакуль яшчэ жывуць тыя, хто працаваў тут раней, і яны шмат пра што могуць расказаць.

Выдаць кнігу агульнымі намаганнямі ў Ільі ёсць каму, маючы на ўвазе ўсіх ахвотных, а яшчэ тых, хто ўжо піша ў пішa вершы, нарысы, апавяданні і кнігі. Абавязкова трэба сабраць фотаздымкі, яшчэ і медыцынскія кнігі старых выданняў і шмат чаго яшчэ для музея, які Юры Лявонавіч марыць стварыць у бальніцы.

Праўдзіва напісаныя тэксты-ўспаміны і фотаздымкі будуць найлепшым падарункам для нашых вельмі паважаных дактароў, медсясцёр, санітарак і тэхнічных работнікаў.

Пры гэтым усім сапраўды трэба паклапаціцца, каб наша Ільянская ўчастковая бальніца была ўзорнай. Каб усе тыя, хто прыйшоў сюды ці аднекуль прыехаў, прыемна здзівіліся ўбачаным і пачутым тут.

І каб з надзеяй прыходзілі людзі ў паліклініку і ў бальніцу, ведаючы, што ім тут абавязкова дапамогуць паправіць здароўе.

То няхай так і будзе на карысць усім і заўсёды.

**Уладзімір КАЖАМЯКА,**
**Ілья.**

● КАЛЯНДАР

**8 лютага.** 205 гадоў з дня нараджэння Івана Хруцкага (1810 – 1885), беларускага жывапісца. Заснавальнік жанру акадэмічнага нацюрморта ў беларускім жывапісе. У яго творчасці нацюрморт займаў адно з галоўных месцаў. Малады хлопец з Беларусі галоўнымі героямі сваіх твораў зрабіў звычайную гародніну – моркву, капусту, цыбулю, гарбузы. Гэтыя рэчы паўсталі на яго палотнах у казачнай прыгажосці. Нацюрморты Хруцкага былі добрым упрыгожваннем жылых пакояў і адразу сталі карыстацца вялікай папулярнасцю. Адначасова Хруцкі пісаў цудоўныя партрэты, з'яўляўся майстрам краявіду. Па ступені ўкладу, які мастак унёс у развіццё беларускага выяўленчага мастацтва, яго імя можна залічыць да імёнаў найбольш выдатных дзеячаў нашай культуры. А як піянер класічнага рускага нацюрморта-карціны ён не мае сабе роўных сярод мастакоў XIX стагоддзя.

***

**9 лютага.** 85 гадоў з дня нараджэння Валянціна Тараса (1930 – 2009), беларускага пісьменніка, перакладчыка. Нарадзіўся ў Мінску ў сям'і мастака. Падчас вайны, у 13 гадоў, пайшоў у партызаны. У 1955 годзе скончыў аддзяленне журналістыкі філфака БДУ. Ад 1955 да 1962 года працаваў у рэдакцыі газеты "Звязда", ад 1964 да 1967 года быў рэдактарам аддзела прозы ў часопісе "Нёман". У 1968 годзе пад ціскам КГБ быў звольнены з працы. На працягу 8 гадоў ён не друкаваўся ў БССР, не дазвалялася здымаць фільм паводле яго сцэнарыя, Валянціна Тараса не выпускалі за мяжу. З тэлебачання была звольненая і яго жонка. Аўтар кніг паэзіі ("Два сшыткі", "Пазіцыя", "Колеры" і інш.), прозы ("Развітальныя кастры", "Даніна часу"), мемуараў ("На выспе ўспамінаў"). Блізкі сябар Васіля Быкава. Менавіта Тарасу Васіль Быкаў даверыў перакласці на рускую мову сваю кнігу мемуараў "Доўгая дарога дадому".

***

**11 лютага.** 75 гадоў назад (1940) створаны Дзяржаўны архіў Вілейскай вобласці (з 20 верасня 1944 г. Дзяржаўны архіў Маладзечанскай вобласці, з 9 лютага 1960 г. – філіял дзяржаўнага архіва Мінскай вобласці ў г. Маладзечна, з 20 верасня 1996 г. – занальны дзяржаўны архіў у г. Маладзечна).

***

**12 лютага.** 105 гадоў назад (1910) у Вільні адбылася першая беларуская тэатральная пастаноўка.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Гісторыя поспеху ідзе ад здаровай усмешкі

Сучасны і паспяховы стаматалагічны цэнтр **"Чэлсена-Дэнт"** – выдатнае пацвярджэнне гэтаму.

Калі вы баіцеся стаматолагаў, значыць, пакуль не сталі кліентам гэтага цэнтра.

Першае, што, безумоўна, падкупляе, – зацікаўленае стаўленне да кліента. Кіраўніцтва **"Чэлсены-Дэнт"** заўсёды на крок бліжэй да вас. Хочаце больш даведацца пра паслугі, цэны, дактароў? Для вас рэгулярна абнаўляюць сайт **chelsena.by**, дзе вы знойдзеце разнастайную патрэбную інфармацыю. Вы можаце пачытаць водгукі ці пакінуць пытанне. Нават запісацца на прыём можна праз электронную пошту, а кансультацыю атрымаць анлайн!

У цэнтры ўважлівасць і ветлівасць гарантуюць усе супрацоўнікі.

Якая б працэдура вас ні чакала – пратэзаванне, лячэнне карыесу, імплантацыя ці адбельванне зубоў, вам гарантуюць высокапрафесійную працу дасведчаных дактароў і самае якаснае абсталяванне.

На прыём у **"Чэлсену-Дэнт"** на хірургічную аперацыю, каб устанавіць імпланты, за іншымі паслугамі прыязджаюць не толькі з усяго рэгіёна, але і з-за мяжы. З павагай дзякуюць за работу **Наталлі** і **Сяргею Чалнаковым**, стаматолагам, якія не толькі выдатна лечаць, але і стварылі адзін з найпаспяховейшых медыцынскіх цэнтраў рэгіёна. Словам падзякі ўзгадваюць дактароў **Алену Дзятковіч**, **Наталлю Куракіну**, **Наталлю Ляшковіч**, **Вадзіма Балінду, Ларысу Талстову**.

Прыемны бонус да бездакорнага лячэння і абслугоўвання – гібкая сістэма скідак для пастаянных кліентаў **"Чэлсены-Дэнт"**. Існуе картка сямейнага доктара, якая дазваляе скідку да 5%. Ёсць сістэма растэрміноўкі плацяжу.

У "Чэлсене-Дэнт" падораць усмешку, якая пачне гісторыю вашага поспеху.




**Ваша чароўная здаровая ўсмешка – упэўнены крок да поспеху!**

## Водгукі пацыентаў на работу цэнтра "Чэлсена-Дэнт"

– Вялізны дзякуй за вашу работу! Так прыемна сустрэцца з чалавекам, які прафесійна ведае сваю справу! Гэта цяпер, калі месяц прайшоў, прызвычайваешся да сваёй усмешкі, да таго, як успрымаюць цябе іншыя...

Тое, што вы зрабілі для мяне, – ГЭТА ЦУД! У вас усё атрымалася за дзесяць дзён і за смешную цану. З павагай, *М. Токар*.

– Клініка стварае цуд! Выказваю падзяку і прызнанне ўсяму калектыву, **Чалнаковай Н.М.** асабліва, за цяжкую працу, якасную і прафесійную работу. *А.М. Фалей*.

– Шчыра дзякую за залатыя рукі і найвышэйшы прафесіяналізм усяму вашаму дружнаму калектыву, уважлівае, спагадлівае стаўленне! *Віктар Марозаў*.

### "Чэлсена-Дэнт" – 15 год на рынку медыцынскіх паслуг

Стаматалагічныя паслугі вам акажуць спецыялісты прадпрыемства **"Чэлсена-Дэнт"**, размешчанага па адрасе: **г. Маладзечна, вул. Ф. Скарыны, 19-а.**

**"Чэлсена-Дэнт"** – гэта сямейнае медыцынскае прадпрыемства, якім кіруюць дактары-стаматолагі першай катэгорыі **Наталля** і **Сяргей Чалнаковы**.

**Віды работ і паслуг:**

– зубатэхнічныя работы

– рэнтгеналагічная дыягностыка (дэнтальная)

– артадантычная стаматалогія

– артапедычная стаматалогія

– тэрапеўтычная стаматалогія

– хірургічная стаматалогія

**Тэлефоны:**

**(80176) 74-16-34**
**факс 74-16-35**
**(8029) 660-36-98**

ПМУП «Чэлсена-Дэнт». УНП 690280824

9 ЛЮТАГА – МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ СТАМАТОЛАГА

# Кампот растварае эмаль зубоў

**МАЛАДЗЕЧНА. Каб пазбегнуць выдалення зубоў, неабходна правільна даглядаць за імі з дзяцінства.**

Як зберагчы зубы здаровымі, расказвае доктар-стаматолаг-тэрапеўт **Наталля Чалнакова**.

### Пра ірыгатар і ёршыкі

Сярод сродкаў догляду за зубамі з'явіліся ірыгатары і ёршыкі. У адрозненне ад зубной шчоткі з пастай, чыстка зубоў ірыгатарам бескантактная, не пашкоджвае эмаль. А вада, якая падаецца з ірыгатара пад ціскам, збівае налёт і пранікае нават у недаступныя для зубной шчоткі і ніткі месцы.

Міжзубныя ёршыкі – эфектыўны сродак для догляду за поласцю рота як у людзей з зусім здаровымі зубамі, так і для чысткі брэкетаў, імплантаў, каронак і пратэзаў.

### Еш – не еш!

Каб зберагчы зубы, абавязкова трэба есці сырую гародніну, садавіну і іншую цвёрдую ежу. Яна патрабуе доўгага і напружанага жавання, што спрыяе прытоку крыві да сківіцы. У сырой гародніне і садавіне, рыбе і сыру ўтрымліваецца вялікая колькасць мікра- і макраэлементаў, якія спрыяюць захаванню цвёрдых тканак зуба і перашкаджаюць натуральным працэсам вымывання кальцыю. Найбольш кальцыю ў сыру. Яго варта есці амаль штодня.

Дарэчы некалькі слоў пра напоі. Кава, чай і большасць цёмных газіраваных напояў ўтрымліваюць рэчывы, якія спрыяюць вывядзенню з арганізма кальцыю, калію, фосфару і іншых элементаў. З часам арганізм пачынае папаўняць іх недахоп за кошт кальцыю, які ўтрымліваецца ў касцях і зубах, што прыводзіць да ўзмацнення карыёзных працэсаў у роце.

**Не піце шмат кампоту. З-за фруктовай кіслаты і цукру зубная эмаль растае на вачах.**

### Вада ўплывае на зубы

Уплывае на зубы жалеза – яго павышанае ўтрыманне надае пітной вадзе жаўтлявае адценне. Пры штодзённым спажыванні такой вады вельмі хутка прымуць такое адценне і вашы зубы.

Не карыстайцеся зубачысткамі. Яны псуюць зубы, імі можна параніць дзясны. Лепш карыстацца ёршыкамі або зубной ніткай.




**Паход да стаматолага двойчы на год, прафілактыка і рэгулярны кантроль спецыяліста дапамогуць вырашыць праблемы своечасова, захаваць шмат грошай і нерваў, у тым ліку зубных.**

### Будзьце асцярожныя з адбельваннем

Палоскі для адбельвання зубоў з'яўляюцца найбольш зручным метадам, каб надаць зубам беласнежнасць у хатніх умовах. Аднак з ужываннем гэтых палосак звязаныя такія пабочныя эфекты, як раздражненне дзяснаў і адчувальнасць зубоў.

Можна выкарыстоўваць палоскі, але канцэнтрацыя рэчыва, якое адбельвае, у іх павінна быць да 10%. Інакш яны могуць дрэнна паўплываць на эмаль.

### За залатымі каронкамі – у Віцебск

У Беларусі толькі адной установе ў Віцебску дазволена вырабляць каронкі з золата. Толькі там можна заказаць выраб зубных пратэзаў з каштоўных металаў, якія тычацца стаматалогіі.

Цяпер стаматолагі робяць напыленне пад золата, якога хопіць на доўгія гады.

### Пра імплантацыю зубоў

Самай передавой тэхналогіяй аднаўлення страчаных зубоў з'яўляецца імплантацыя. Сутнасць імплантацыі заключаецца ў тым, што ў сківічную касцяную тканку ўжыўляецца пратэз-імплант, які замяняе адсутны зуб.

Імплантацыя дае магчымасць замяшчаць страчаныя зубы без абточвання і дадатковай апрацоўкі суседніх зубоў.

### Пасту падбірайце разам са стаматолагам

Пасту і шчотку лепш падбіраць на прыёме ў стаматолага. Зубныя пасты дзеляцца на гігіенічныя і лячэбна-прафілактычныя.

Першыя прызначаны толькі для ачышчэння зубоў ад налёту, астаткаў ежы, а таксама надання прыемнага паху. Ніякіх актыўных кампанентаў, якія засцерагаюць зубы ад карыесу, яны не ўтрымліваюць.

Лячэбна-прафілактычныя пасты акрамя ачышчэння паверхні зубоў, падаўляюць мікрафлору, якая выклікае карыес і парадантыт (запаленчы працэс дзяснаў), спрыяе ўзнаўленню мінеральнага складу зуба і адбельванню эмалі.

Ёсць спецыяльныя зубныя пасты ад парадантозу і крываточвасці дзяснаў. Пасля ежы можна выкарыстоўваць апаласквальнік для рота. Гэта дадатковы сродак гігіены – водны раствор актыўных кампанентаў з пэўнымі лекавымі і прафілактычнымі ўласцівасцямі.

### Беражыце зубы дзяцей

Спецыяльныя стаматалагічныя гелі абязбольваюць, а таксама аказваюць антымікробнае і супрацьзапаленчае дзеянне. Некаторыя гелі можна прымяняць як дарослым, так і дзяцям любога ўзросту.

### Больш маладзечанцаў прыходзяць з сапсаванымі зубамі

На прафілактыку ў стаматалогію неабходна звяртацца раз у паўгода, каб праверыць, ці не з'явіўся карыес: карыёзныя працэсы могуць быць бессімптомныя.

Многія адкладваюць наведванне стаматолага на потым, а за гэты час маленькая дзірачка ператвараецца ў вялікую. Так і большасць маладзечанцаў прыходзяць у стаматалогію з такімі зубамі, у якіх неабходна выдаляць нервы. Зуб вылечваюць, але ён застаецца мёртвым.

### Факты і міфы пра зубы

* Міжнародны дзень стаматолага адзначаецца ў дзень памяці святой Апалоніі. Яе білі па сківіцах, выбілі ўсе зубы, зладзілі за горадам вогнішча і спалілі – за тое, што яна не адмовілася ад хрысціянства.

* У пачатку сярэднявечча зубы вырывалі цырульнікі сваімі інструментамі.

* Не існуе двух аднолькавых зубных радоў. Яны практычна такія ж ўнікальныя, як і адбіткі пальцаў.

* Прыкладна адно немаўля на дзве тысячы нараджаецца ўжо з прарэзаўшымся зубам ці некалькімі.



Вольга ЮРКЕВІЧ
olga920420@gmail.com

### Колькі каштуе палячыць зубы?

Лячэнне зуба з выдаленнем нерва ў адным са стаматалагічных кабінетаў Маладзечна па прэйскуранце абыдзецца каля 400 тысяч рублёў.

На матэрыялы ідзе 155 тысяч, гэта 39 працэнтаў ад агульнай сумы, астатнія – за работу доктара. А гэта і падаткі, і агульнагаспадарчыя выдаткі.





"Рэгіянальная газета" віншуе стаматолагаў рэгіёна з ПРАФЕСІЙНЫМ СВЯТАМ!

Сусветны дзень стаматолага – гэта добрая нагода, каб яшчэ раз узгадаць пра вашу нялёгкую працу.

Мы жадаем вам моцнага здароўя, добрага настрою, шчасця ў асабістым жыцці. Няхай кожны дзень будзе светлы і паспяховы. А ўзнагародай за працу – беласнежныя ўсмешкі вашых пацыентаў.

**ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА**

# Сапраўдны алімпійскі чэмпіён жыве ў Капачах

**МАЛАДЗЕЧНА. Ён выйграў Алімпіяду з сусветным рэкордам, у разгар "халоднай вайны" паціскаў руку амерыканскім салдатам, аб'ехаў увесь свет і завёз у Беларусь аліўкавы алей.**

Ён – алімпійскі чэмпіён 1988 года ў Сеуле па скачках у вышыню **Генадзь Аўдзеенка.** У яго роднай Адэсе яму не давалі ступіць ні кроку, пазнавалі ў Маскве. Ён і цяпер сябруе з **Сяргеем Бубкам і Рудольфам Паварніцыным.** Жыве непадалёк ад Маладзечна і працуе настаўнікам фізкультуры ў 8-й школе.

Але паміж Алімпіядай у Сеуле і школай у Маладзечне вялікі шлях, пра які Генадзь Аўдзеенка і расказаў "Рэгіянальнай газеце". Пры гэтым, па словах чэмпіёна, пра некаторыя рэчы ён гаворыць упершыню.




Фота з архіва Генадзя АЎДЗЕЕНКІ.

**На фотаздымку Генадзь адпачывае падчас спаборніцтваў. Да сёння ў яго захоўваюцца ўсе асабістыя нумары ўдзельніка спаборніцтваў. Уверсе злева – Генадзь Аўдзеенка сёння.**

### Каб выйграць чэмпіянат свету, трэба расслабіцца

Алімпіяду Генадзь Аўдзеенка выйграў, калі яму было 25 гадоў. Да гэтага, прызнаецца сам, ён ужо адчуў смак перамогі, і эйфарыі ад залатога медаля не было.

А вось першую асалоду ад перамогі памятае дакладна. Гэта было ў Адэсе, калі Генадзь вучыўся ў другім класе. На школьных спаборніцтвах ён скокнуў у даўжыню і атрымаў першую грамату:

– Я да гэтага памятаю, як бег дамоў і праз увесь двор крычаў маме: "Мама, мне далі грамату".

Тая перамога вызначыла ўвесь лёс.

**Рост Генадзя Аўдзеенкі – 2 м 04 см.**

У 19 гадоў Генадзь стаў чэмпіёнам свету. Чэмпіянат праходзіў у Хельсінкі. Калі Генадзю трэба было выходзіць на старт, для ўсёй Фінляндыі адбылася значная падзея. **Ціна Лілак**, фінская спартсменка, стала чэмпіёнкай свету.

– Помню, як я рыхтуюся да старту, а побач бяжыць Ціна са сцягам Фінляндыі, увесь стадыён, а гэта 100 тысяч народу, крычыць, вітае сваю гераіню. Я паказваю суддзям, што не магу скакаць, мне перашкаджаюць. Суддзя даў адмашку. Ах так, думаю я, ну бо вам! І скокнуў на 2 метры 32 сантыметры.

### У інтэрв'ю расказваў, што на Алімпіядзе ў ЗША нам выступаць небяспечна

З чэмпіянату свету да алімпійскага п'едэстала ў жыцці Генадзя Аўдзеенкі прайшло пяць гадоў.

– На Алімпіяду-84 мы не паехалі. Рыхтаваліся, але ў апошні момант стала вядома, што Савецкі Саюз байкатуе Алімпіяду ў Лос-Анджэлесе. Нам, спартсменам, ад кіраўніцтва было зададзена "правільна" адказваць на пытанні прэсы. Я даваў інтэрв'ю, і на пытанне, чаму не едзем, адказваў, што мы ў Амерыцы будзем неабароненыя. Вось выйдзем на стадыён, а нас з трыбун застрэляць з кулямёта. Цяпер смешна пра тое ўспамінаць.

І на чэмпіянаце свету ў Сеуле была цікавая гісторыя. У 1987 годзе ў СССР і Карэі не было дыпламатычных адносін. Хто памятае, у 1983 годзе савецкі знішчальнік збіў карэйскі пасажырскі боінг. Адносіны паміж краінамі сталі нацягнутымі.

– Мы прыляцелі ў Сеул у 1987 годзе. У аэрапорце нас сустрэлі амерыканскія цемнаскурыя салдаты. Яны пачулі рускую гаворку і падышлі да нас у такім захапленні. Відаць, ім да гэтага расказвалі, што ў Савецкім Саюзе жывуць мядзведзі.

### 11 тысяч долараў і трохпакаёвая кватэра за алімпійскі медаль

**– Памятаеце, колькі грошай атрымалі за перамогу на Алімпіядзе?**

– Так. У 1983 годзе за чэмпіянат свету прэмія была 1178 рублёў і 80 капеек. А за Алімпіяду абяцалі 12 тысяч рублёў, а заплацілі ў доларах. У Сеуле выдалі чатыры тысячы, і потым дома яшчэ сем тысяч долараў. Ад кіраўніцтва краіны атрымаў трохпакаёвую кватэру ў Адэсе. Адразу машыну купіў. Пасля Карэі мы паехалі ў Японію. Адтуль прывёз кучу тэхнікі: магнітафон, відэакамеру і гэтак далей.

**Асабовы рэкорд Генадзя Аўдзеенкі ў скачках у вышыню – 2 м 38 см.**

– Тады здавалася, – працягвае Генадзь, – што дзяржава будзе ўсё жыццё забяспечваць. Былі грошы. Былі рахункі ў банку, якія зніклі за адну ноч.

**– А дзе цяпер ваш алімпійскі медаль?**

– У адным інтэрв'ю я сказаў, што дома ў шуфлядзе захоўваю. Сябры прачыталі і кажуць: "Ты што, дурань, такую каштоўнасць дома захоўваць". Паслухаўся, аднёс у банкаўскую скрыню.

У пачатку 90-х гадоў Генадзь Аўдзеенка пераехаў у Беларусь. Пра прычыны такога рашэння ён не раскрывае.

Генадзь абасноўваўся ў вёсцы Капачы на Маладзечаншчыне. Пасля завяршэння спартыўнай кар'еры, якую давялося спыніць з-за траўмаў, Генадзь сур'ёзна заняўся бізнесам. Прывозілі тэхніку, спартыўнае харчаванне.

### Вы мне прадалі прагорклы алей!

Генадзь быў першым бізнесменам, хто стаў вазіць у Беларусь аліўкавы алей.

– Васілі яго з Масквы, былі прапановы вазіць напрамую з Іспаніі, але там трэба было закупляцца вялікімі партыямі, літаральна цэлымі вагонамі. А аліўкавы алей тут у пачатку 90-х не ішоў. Быў у мяне выпадак, калі да мяне з прэтэнзіяй прыйшла бабуля, якая купіла ў мяне той алей. "Вы мне прадалі прагорклы алей!" – кажа яна. Я тлумачу, што алей першага адціскання трошку гарчыць. Гэта нармальна. Дзе там! Нічога не дакажаш!

А праз некаторы час і некаторыя няўдалыя спробы бізнесу Генадзь зразумеў, што бізнес – гэта не яго. Надта блізка ўсё прымае да сэрца, некалькі разоў трапляў у бальніцу. Давялося стаць трэнерам.

### Толькі мясарубка выхавае сапраўднага спартсмена

– Я здзіўляюся сучаснай моладзі. Ім жа цяпер нічога не трэба! А між тым, толькі праца, толькі намаганні выхаваюць чэмпіёна.

Рэжым для спартсмена – гэта ўсё. Некалькі гадоў 1 студзеня Генадзь прыходзіў у манеж трэніравацца. Вартаўнік здзіўляўся, як я на раніцу пасля Новага года магу прыходзіць у спартзалу.

– У адным з інтэрв'ю хакеіст **Аляксей Калюжны** сказаў, што толькі мясарубка можа выхаваць спартсмена. Я з ім згодны на 100%. Згадайце хакейнага трэнера **Тарасава**, якія ў яго трэніроўкі былі? Затое і імёны якія! Той жа **Мірановіч** у гандболе. З той жа прычыны я не люблю наш футбол. Таму што футбалісты ўсе гультаі.

**– А як ацэньваеце сённяшнюю сітуацыю ў беларускім спорце?**

– Усё блага. Да нас у ДЮСШ, пакуль я працаваў трэнерам, ні разу не прыехала спартыўнае кіраўніцтва краіны. Не спытаўся ніхто, як мы жывём, якія ў нас праблемы. Тое, што ў нашым манежы ляжыць пакрыццё да кароўнікаў, гэта вядома ўсім. Спорт у Беларусі не папулярны. Я нават даваў аб'яву на тэлебачанне, што алімпійскі чэмпіён набірае групу дзяцей. І, ведаеце, ніхто не пазваніў.

**– А выйсце з такой сітуацыі ёсць?**

– Рабіць спорт масавым. У кожным двары адкрываць спортпляцоўкі. Папулярызаваць спорт. А то, ведаеце, як у нас набіраюць спартсменаў? Па прынцыпе: "Алё. Мы шукаем таленты!". А спартсмена трэба выхоўваць. І формулу поспеху я даўно вынайшаў з уласнага досведу. Гэта талент + трэніроўкі + моц духу. А спартсмены ў Беларусі – гэта адзінкавыя яскравыя зорачкі, пад якіх усё падпарадкоўваецца. Але іх час неўзабаве пройдзе. І што будзе з юнацкім спортам? Што?

**Наталля ТУР.**

**Больш фота на сайце**




**НАВІНЫ**

## "Смаргонь" пакінулі шэсць гульцоў

**СМАРГОНЬ.** Па заканчэнні тэрміну дзеяння кантрактаў рассталіся з футбольным клубам шасцёра гульцоў. Гэта **Раман Гаркуша**, **Сяргей Равіна**, **Юры Мархель**, **Радзівон Сямук**, **Аляксандр Сямёнаў** і **Сяргей Кавальчук**, паведаміў прэс-аташэ клуба **Уладзімір Амбрасевіч**.

## Гульцы з Астраўца ўзначалілі табліцу

**АСТРАВЕЦ, АШМЯНЫ.** У першай лізе чэмпіянату Гродзенскай вобласці па міні-футболе 1 лютага "Меліяратар" з Астраўца гуляў з "ГроднаЛіфтам". Аўстраўчане ўпэўнена перамаглі 15:6 і выйшлі на першае месца.

Каманда з Ашмянаў пакуль на 4 месцы. У першай лізе гуляюць шэсць камандаў.

## Вілейскі плывец заваяваў бронзу

**ВІЛЕЙКА.** У Салігорску ад 28 да 30 студзеня праходзілі спаборніцтвы па плаванні па праграме Алімпійскіх дзён моладзі Мінскай вобласці.

Удзельнічалі ў іх пяць віляйчан. Найлепш з іх выступіў **Юген Маліноўскі.** Ён заняў трэцяе месца на дыстанцыі 100 метраў батэрфляем, паведаміў дырэктар СДЮШАР Вілейскага райвыканкама **Сяргей Гатаулін**.

## Віляйчанкі – трэція ў вобласці

**ВІЛЕЙКА.** У Салігорску 30 і 31 студзеня прайшлі спаборніцтвы па баскетболе паміж дзяўчат 1998-1999 гадоў нараджэння па праграме Алімпійскіх дзён моладзі Мінскай вобласці.

За перамогу змагаліся восем мацнейшых камандаў Міншчыны. Каманда дзяўчат СДЮШАР Вілейскага райвыканкама заняла трэцяе месца. Апярэдзілі віляйчанак каманды з Салігорска і Барысава.

А каманда юнакоў 30-31 студзеня змагалася на аналагічных спаборніцтвах у Лагойску. Віляйчане занялі чацвёртае месца.

## На "Вілейскай лыжні"

**ВІЛЕЙКА.** 31 студзеня ва ўрочышчы "Дубаўка" прайшлі спаборніцтвы па лыжных гонках "Вілейская лыжня-2015". Змагаліся і дарослыя, і дзеці ў некалькіх узроставых групах.

Паміж дарослых перамаглі **Юры Кузьміч** і **Галіна Станкевіч.**

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя **"Снежная каралева 2: Перазамарозка"**, 3D (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
7 лютага – у 13:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Анімацыйная камедыя **"Тры багатыры: Ход канём"**, 3D (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
8 лютага – у 13:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Камедыя **"Прыгоды Падынгтона"** (2014, без узроставых абмежаванняў)
7 лютага – у 15:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Фэнтэзі, камедыя **"Ноч у музеі: Сакрэт грабніцы"** (ЗША, 2014, без узроставых абмежаванняў)
8, 10 лютага – у 17:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Гістарычная драма **"Зыход: Цары і багі"**, 3D (2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
7 лютага – у 17:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Камедыя **"Ёлкі махнатыя"**, (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
6 лютага – у 17:00
8 лютага – у 15:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Трылер, крымінал **"Рабаванне па-амерыканску"**, (ЗША, Расія, 2014, з 16 год)
11 лютага – у 17:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Фэнтэзі **"Узыходжанне Юпітэр"**, 3D (ЗША, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
6, 8, 10 лютага – у 19:00 (цана білета: 55 000 рублёў)
7 лютага – у 22:00 (60 000 рублёў)
9 лютага – у 21:00
11 лютага – у 21:30 (цана білета: 55 000 рублёў)

Камедыя **"Невідзімкі"**, (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
6, 8, 10 лютага – у 21:30
7 лютага – у 20:00
9 лютага – у 19:00
11 лютага – у 19:30
12 лютага – у 17:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Баявік, крымінал, камедыя **"Kingsman: Сакрэтная служба"** (Вялікабрытанія, 2014, з 16 год)
12 лютага – у 19:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Меладрама, драма **"Пяцьдзясят адценняў шэрага"** (2014, з 18 год)
12 лютага – у 22:00
Цана білета: 50 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя **"Оз: Вяртанне ў Ізумрудны горад"** (без узроставых абмежаванняў)
6 лютага – у 16:30
7 лютага – у 16:30
8 лютага – у 14:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя **"Джасцін і рыцары доблесці"** (Іспанія, без узроставых абмежаванняў)
7 лютага – у 14:30
8 лютага – у 16:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Камедыя **"Прыгажуні ў Парыжы"** (Францыя, 2013, з 18 год)
6, 8 лютага – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Драма **"Ракавая жарсць"** (ЗША, 2013, з 16 год)
7 лютага – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыйная меладрама **"Кахаю тваю жонку"** (Канада, 2013, пасля 16 год)
6, 8 лютага – у 18:30
7, 9 лютага – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя **"Горка! 2"** (Расія, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
10 лютага – у 18:30
11 лютага – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Трылер **"Пабудзь у маёй шкуры"** (з 16 год)
10 лютага – у 21:00
11 лютага – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Прыгоды **"Схватка"** (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
12 лютага – у 19:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Прэм'ера! Жахі **"Сіневір"** (ЗША, Украіна, 2013, з 16 год)
12 лютага – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Прыгоды **"Сутычка"** (Беларусь, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
6 лютага – у 18:00
7 лютага – у 20:00
Цана білета – 20 000 рублёў

Казка **"І я там быў"** (Расія, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
7 лютага – у 18:00
Цана білета – 20 000 рублёў

Трылер **"Мерзлая зямля"** (ЗША, з 16 год)
6 лютага – у 20:30
8 лютага – у 20:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Прыгоды **"Цімур і каманда"** (Беларусь, без узроставых абмежаванняў)
7 лютага – у 15:00
Цана білета – 12 000 рублёў

Анімацыя **"Тарзан"** (Германія, без узроставых абмежаванняў)
8 лютага – у 15:00
Цана білета – 15 000 рублёў

Драма **"Трэба жыць"** (Беларусь, з 16 год)
8 лютага – у 18:30
Цана білета – 20 000 рублёў

Камедыя **"Дзень дурня"** (Расія, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
11, 12 лютага – у 18:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Жахі **"Сіневір"** (ЗША, Украіна з 16 год)
11 лютага – у 20:00
12 лютага – у 20:30
Цана білета – 35 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Фэнтэзі, камедыя, сямейны **"Ноч у музеі: Сакрэт грабніцы"**, 2D (ЗША, Вялікабрытанія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
6 лютага – у 18:00
Цана білета – 45 000 рублёў

Фэнтэзі, баявік **"Узыходжанне Юпітэр"**, 3D (ЗША, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
6 лютага – у 20:00
7 лютага – у 21:00
8 лютага – у 18:00
11 лютага – у 20:30
Цана білета – 55 000 руб

Камедыя, сямейны **"Прыгоды Падынгтона"** (2D, Вялікабрытанія, Францыя, без узроставых абмежаванняў)
7 лютага – у 13:00
Цана білета – 20 000 рублёў

Камедыя **"Ёлкі махнатыя"**, 2D (Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых).
7 лютага – у 15:00
8 лютага – у 14:00
Цана білета – 20 000 рублёў

Камедыя, фэнтэзі **"Невідзімкі"**, 2D (Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых).
7 лютага – у 17:00
8 лютага – у 16:00
Цана білета – 25 000 рублёў

Трылер, крымінал, драма **"Рабаванне па-амерыканску"**, 2D (ЗША, Расія, з 16 год)
7 лютага – у 19:00
8 лютага – у 20:30
12 лютага – у 18:00
Цана білета – 45 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды **"Снежная каралева 2: Перазамарозка"**, 3D (Расія, без узроставых абмежаванняў)
8 лютага – у 12:00
Цана білета – 25 000 рублёў

Драма **"Зыход: Цары і багі"**, 3D (Вялікабрытанія, ЗША, Іспанія, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
11 лютага – у 18:00
Цана білета – 55 000 руб

Меладрама **"Пяцьдзесят адценняў шэрага"**, 2D (ЗША, з 18 год)
12 лютага – у 20:00
Цана білета – 45 000 руб

Тэл.: **8(01771) 5-68-59**



Кадр з фільма "50 адценняў шэрага".

Фота kinopoisk.ru

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**"Хітрыкі мадам завірухі"** (музычная казка), *Людміла Вайнова*
10 лютага, аўторак, – у 11:30

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**"Каб вы жылі..."** (драма ў 2-х дзеях), *Міхаіл Каломенскі*
10 лютага – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. **"Памяць, за сабой пакліч..."** (музычна-паэтычны спектакль)
11 лютага, серада, – у 16:00

ПРЭМ'ЕРА. **"Сямейны партрэт з пабочнай асобай"** (камедыя ў 2-х дзеях), *Сцяпан Лабазёраў*
13 лютага, пятніца, – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7*
Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**76-17-32** (галоўны адміністратар),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/
УНП 600066659

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**"Маша і мядзведзь"** (народная казка), В.Швэмбергер
8 лютага – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:
*Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. (8-0176) **75-36-73, 76-84-27.**
УНП 600136804

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 5 | 9 | 8 | 6 | | 4 |
| 5 | | | | | | 3 | 7 | |
| 6 | | | | | | | | |
| 1 | 7 | | | 8 | 9 | | | |
| 2 | | | | | | | | 8 |
| | | | 6 | 7 | | | 4 | 3 |
| | | | | | | | | 7 |
| | 3 | 2 | | | | | | 6 |
| 7 | | 5 | 1 | 2 | 6 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



● КОНКУРСЫ

## Журналістка "РГ" Наталля Тур перамагла ў літаратурным конкурсе

**СМАРГОНЬ.** Конкурс калядных апавяданняў упершыню сёлета правёў сайт Zalesse.by.



Першае месца ў конкурсе журы аддало **Наталлі Тур** за апавяданне "Каму пашкодзіў кампот з вішні?", якое надрукавала "Рэгіянальная газета".

Арганізатары адзначылі таксама работы **Арыны Ігнатовіч** ("Як з'явілася снягурачка"), **Уладзіслава Нісцюрына** ("Калядная ноч") і **Паліны Кенько** ("Авечка шчасце прынесла").

Наталля Тур працуе ў "Рэгіянальнай газеце" больш за год. Цікавіцца тэмамі культуры і спорту, піша пра грамадскія праблемы. Апавяданне "Каму пашкодзіў кампот з вішні?" стала яе літаратурным дэбютам.

**Аддзел інфармацыі.**

**Камент-эксперт** Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

**Дом Valentino ашаламіў Парыж калекцыяй вышыванак, прысвечаных Шагалу**

Якая, аднак, прыгажосць!.. І вельмі шкада, што гэткая прыгажосць зусім не сустракаецца ў нашым сучасным адзенні... На жаль... ***Эва.***

**Паштоўка як напамін пра Вілейшчыну – з'явілася серыя паштовак з вілейскімі краявідамі**

А можна пашырыць прастору распаўсюджвання да Маладзечна? Вельмі прыгожыя фотаздымкі. Некалькі б дакладна купіла. ***Маладзечанка.***

**Кампот з вішні. Калядние апавяданне**

Віншую, Наталля. Ты – малайчына. Сапраўдны талент, заслужаная ўзнагарода. Брава. ***Эдгард.***

**Зімовыя забавы ў абедзенны перапынак**

Малайцы! Снегавікі прыгожыя, дзяўчаты шыкоўныя. Рэспект. ***Уладзімір Уладзіміравіч.***

● **ГАРАСКОП 6-12 ЛЮТАГА**

**Авен.** Звярніце ўвагу на здароўе. Галоўнай прычынай недамагання можа стаць ваша ўласная бестурботнасць і нядбайныя адносіны да сябе. Адмоўцеся ад алкаголю, кіньце вы шкодныя прывычкі па-сапраўднаму, а не толькі на словах.

**Цялец.** Пачынайце новыя справы ну проста з панядзелка. Гэта тычыцца і працы, і любоўных адносін. І не траціце час на пустое.

**Блізняты.** Старайцеся адказна адносіцца да правілаў і законаў. Бо калі раптам узнікнуць рознагалоссі з уладамі, кіраўніцтвам, трэба, каб вы былі ў поўным узбраенні. Веды ў гэтай справе – сіла.

**Рак.** Увесь год – гэта час грандыёзных ідэй для простага і паўсядзённага шчасця. Не забывайце, што яно ствараецца кожны дзень шляхам выпадковых рашэнняў, сустрэч, мімалётных размоў, таго, што робіць наша жыццё напоўненым і змястоўным.

**Леў.** Вам трэба правільна размеркаваць свой час. Адну яго частку аддавайце рабоце, другую – адпачынку, а трэцюю – асабістым узаемаадносінам. Толькі так вы адчуеце сябе больш свабодна, і выконваць паўсядзённыя задачы стане лягчэй.

**Дзева.** Вы, нарэшце, зразумееце, што няма сэнсу стукацца ў закрытыя дзверы. Выбірайце іншую тактыку і пачынайце новае жыццё. Гэта будзе правільнае рашэнне, але яно запатрабуе намаганняў, і ў большай ступені – маральных.

**Шалі.** Дапамажыце таму, хто папросіць вас аб гэтым. І нічога не рабіць на шкоду сабе, бо некаторыя могуць пакарыстацца вашай даверлівасцю і жаданнем быць карысным.

**Скарпіён.** Вы многае зразумееце пра сябе і тых, хто вас акружае. Зоркі не забараняюць рабіць бяздумныя ўчынкі, але ўсю адказнасць за іх вам прыйдзецца ўзяць на сябе.

**Стралец.** Вам забяспечаны цудоўны настрой і радасныя падзеі.

**Казярог.** Вам спадабаецца сюрпрыз, які паднясе вам лёс.

**Вадалей.** Вы зможаце дабіцца выдатных вынікаў і здзейсніць прарыў у прафесійнай сферы. Гэба абавязкова будзе адзначана калегамі і кіраўніцтвам.

**Рыбы.** Звяртайце ўвагу на здароўе. Бо ад таго, як будзеце сябе адчуваць, залежаць шчасце ў асабістым жыцці, поспех, кар'ера.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991–7155
9 771991 715006



**Рэгіянальная газета. Rh.by**
Тэлетыдзень 27

## НАДВОР'Е

**7 лютага, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -5 / -3 | | -2 / 0 | | -2 / -2 | | -5 / -5 | |
| | 748 | ↘ 6 | 736 | → 5 | 727 | ↘ 9 | 735 | → 5 |
| Вільня | -2 / -1 | | -1 / +1 | | -1 / -3 | | -6 / -2 | |
| | 757 | → 5 | 745 | → 6 | 738 | ↓ 9 | 743 | → 6 |

Тэмпература паветра / Воблачнасць ападкі / Ціск (мм рт. сл.) / Хуткасць ветра м/с / Усход, захад па Маладзечне

Усход 8.49
Захад 18.04
Даўжыня дня 9.15

Усход 22.09
Захад 69.44
Квадра 3




## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**Валожын**

- Мінімальная тэмпература -22,6 °C у 1985 годзе
- Максімальная тэмпература +8,2 °C у 1990 годзе
- Максімальная колькасць ападкаў 9,1 мм у 1982 годзе

Назіранні за 36 год. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **Калі саджаць агуркі ці цыбулю? На гэтыя і іншыя пытанні адкажа каляндар садавода і агародніка на 2015 год па культурах.**



## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ ВАЛОЖЫНШЧЫНЫ



Фота забяспечана Святланай ЮШКЕВІЧ.

**Чытачка Святлана з Валожына даслала сваё фота. Падчас абеденнага перапынку яна з калегамі Інесай і Інгай зляпіла пару снегавікоў – Себасцьяна і Эльзу.**



## ЦІКАВЫЯ ФАКТЫ

У сярэднім мы міргаем 17 разоў у хвіліну, 14280 разоў за 14 гадзін у дзень, 5,2 мільёна разоў на год. Калі чалавек чытае, ён менш міргае, таму нашы вочы вельмі стамляюцца.

**Паводле vsefacty.com.**



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Як часта вы лечыце зубы?



**Аляксандр Латушка, настаўнік:**

– Не, я стаматолагаў не баюся, бо зубы здаровыя. Апошні раз быў гадоў пяць таму, калі праходзіў медыцынскую камісію ў ваенкамат.



**Анжаліка Сысуева, навучэнка:**

– Правяраю зубы адзін раз у паўгода. Не баюся стаматолагаў, бо маю здаровыя зубы. Галоўнае, правільна харчавацца і часцей чысціць зубы, тады яны будуць у парадку.



**Галіна Рагель, повар:**

– Часта хаджу да стаматолагаў – раз у тры месяцы. Бо зубы ўжо не такія здаровыя, як у маладосці. Але цярплю, што ж рабіць.



**Іван Ермаковіч, беспрацоўны:**

– Апошні раз да стаматолагаў хадзіў яшчэ ў дзяцінстве. Не вельмі гэта прыемна. З самых страшных успамінаў, калі свідруюць зубы. Галоўнае, харчавацца добра, тады зубы будуць здаровыя.



**Уладзімір Паплаўскі, навучэнец:**

– Апошні раз быў у стаматолага летась у снежні. Баюся, калі робяць замарозку ў паднябенне, калі падпілоўваюць зубы.



**Віталь Крупянькоў, дырэктар гімназіі №3:**

– У мяне ёсць доктар-стаматолаг, да якога хаджу на працягу 20 гадоў. Апошні раз быў год таму. Але баюся стаматолагаў.



**Наталля Чалнакова, стаматолаг:**

– Правяраю свае зубы раз у паўгода. Самы страшны момант для мяне, калі робяць укол абязбольвання.

**Падрыхтавалі Вольга ЮРКЕВІЧ, Галіна СІНЦА.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 6 (1032) 6.02.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 155. Падпісана ў друк у 9.00 5.02.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.